

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2(97) Люты 2002 February Год выд. 10.


## Лекцыя Духоўнасьці

*Ва ўрочышчы Курапаты адбылося ўрачыстае ўзнаўленне мемарыяльнага знаку «Ад народу Злучаных Штатаў беларускаму народу» – мармуровай лаўкі, усталяванай у 1994 годзе прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, калі той першым і апошнім разам прыязджаў у Беларусь.*

Дзевяць месяцаў таму невядомыя вандалы разламалі знак. Па гэтым факце было праведзенае расследаванне, якое, праўда, не дало ніякіх вынікаў. Відаць, зламыснікаў не дужа і шукалі. Гэты акт вандалізму пацягнуў за сабой і іншыя сумныя падзеі ў курапацкім лесе. Так, праз нейкі час пасля разбурэння мемарыяльнага знаку тут за кошт тэрыторыі Курапатаў, месца масавых пахаванняў ахвяраў сталінізму, пачалі пашыраць Мінскую кальцавую дарогу.

Аднаўленне мемарыяльнай лаўкі ў Курапатах амерыканцамі, што, у прынцыпе, павінны былі зрабіць мы самі, – гэта яшчэ адзін урок духоўнасці і цывілізаванасці для нас. Прыкра, што мы так



паставіліся, па-першае, да падарунку, па-другое, да шанавання амерыканскім народам памяці бязвінна забітых людзей. Ужо не кажучы пра тое, што гэтыя людзі – нашыя суайчыннікі. Мерапрыемства па ўзнаўленні мемарыяльнай лаўкі сабрала амаль усіх прадстаўнікоў еўрапейскіх дыпламатычных місіяў у Беларусі. Адразу кідалася ў вочы адсутнасць прадстаўнікоў Расіі. Ад беларускага боку прысутнічаў намеснік міністра замежных справаў Аляксандр Сычоў.

Акрамя дыпламатаў ды журналістаў, урачыстасць наведалі прыкладна дзвесце актывістаў разнастайных апазіцыйных партыяў ды рухаў: КХП-БНФ, «Зубра», Маладога Фронту, Беларускай партыі Свабоды, Таварыства беларускай мовы ды іншыя. Сярод іх былі маладыя людзі, што нясуць у Курапатах кругласутачнае дзяжурства.

Амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак зачытаў кароткую прамову, пасля чаго адбылося выкананне гімна «Магутны Божа». Майкл Козак казаў аб тым, што з вялікім шкадаваннем даведаўся аб разбурэнні мэмарыяльнага знаку і спадзяецца, што пасля рэстаўрацыі такіх інцыдэнтаў больш не будзе.

Пасля сканчэння афіцыйнай часткі мерапрыемства святары правялі ўрачыстую імшу ды асьвяцілі лаўку.

***************************************



**Сп-ня Ірэна Жылінская-Цупрык — знаная тэатральная і грамадзка-рэлігійная энтузіястка ў Эўропе ды Саўт Рывэры, ЗША., патрыётка свайго народу, ведамая дэкляматарка беларускай паэзіі.**

**Паважаная Ірэна! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**



## Грахі савецкай дзяржавы

Майкл ЧЭПМАН, The Washington Times

*Шмат хто любіць крытыкаваць велізарныя дзяржаўныя ўтварэнні. Яны кажуць, што тыя настолькі агромністыя і бюракратызаваныя, што нічога няздатныя зрабіць слушна. Магчыма, яны маюць рацыю. Але адно ў такіх дзяржаваў атрымліваецца – забіваць людзей. Крывавае XX стагоддзе гэта даказала.*

Адной з найбольш жорсткіх дзяржаваў-забойцаў у тую эпоху быў Савецкі Саюз. Дзесяць гадоў таму ён развалўся. 1991 год павінен запомніцца як найвялікшая перамога ў барацьбе за свабоду. На тэрыторыі былой краіны-монстра больш не пануюць ва ўсіх сферах жыцця тэрор і морак.

Узгадайма мільёны забітых у імя той дзяржавы. Іх сляды — на фатаздымках і дакументах з савецкіх архіваў, у незлічоных масавых пахаваннях па ўсіх кутках былога СССР. Халодны ўраджай трупаў.

Іх нельга забыць. Найбуйнейшая з дзяржаўных машынаў у гісторыі забіла дзесяткі мільёнаў людзей – жанчын, дзяцей, бацькоў, цэлых сем'яў. Нацыяналізаваная, планавая эканоміка – сацыялізм у асобна ўзятай краіне – магла існаваць толькі ва ўмовах тэрору. Свабодны рынак, эканоміка, у якую не ўмешвалася дзяржава, не маглі зрабіць і не зрабілі таго, на што аказаўся здатны жалезны кулак савецкай улады. І мы павінны вынесці з гэтага ўрокі.

Першыя вялікія канцэнтрацыйныя лагеры пабу-



давалі не Гітлер з нацыстамі. Іх пабудавалі Ленін, Сталін, бальшавікі. У 30-х гадах ужо сотні такіх лагераў труцілі сабою зямлю.

Так званых ворагаў народу, у тым ліку інтэлігенцыю і рэлігійных дзеячаў (іудзеяў, каталікоў, праваслаўных), ссылалі ў лагеры разам з крымінальнікамі. Там іх прымушалі працаваць літаральна да смерці. Паводле самых сціплых падлікаў, у лагерах загінула каля 16 мільёнаў чалавек.

Ва Украіне ў 1932-33 гадах уведзеная Сталіным сістэма размеркавання зерня замарыла голадам прыблізна 5 мільёнаў сялянаў. Людзей забіла дзяржаўнае планаванне.

У 1933 годзе адміністрацыя прэзідэнта Франкліна Рузвельта, у якой сядзелі прыхільнікі і агенты камунізму, што сёння пацвярджаецца савецкімі і амерыканскімі дакументамі, афіцыйна прызнала савецкі ўрад. У другой палове 30-х пачаліся сумна вядомыя паказальныя судовыя працэсы. Гэта сталася пачаткам вялікага тэрору, у выніку якога загінуў прыблізна мільён грамадзянаў. Сталін штодзённа падпісваў смяротныя прысуды. У адным з такіх прысудаў, які захоўваецца ў былых савецкіх архівах (апублікаваны ў «Чорнай кнізе камунізму»), Сталін распарадзіўся вынішчыць 6 600 сваіх палітычных апанентаў.

Даходзіла да таго, піша гісторык Роберт Конквэст, што ў некаторыя дні на Лубянцы расстрэльвалі да 200 чалавек. У той самы час сакрэтныя службы рознымі спосабамі пазабівалі 6,5 мільёнаў кулакоў – заможных сялянаў, якія супраціўляліся палітыцы калектывізацыі.

У 1939 годзе Саветы заключылі «пакт аб ненападзе» з нацысцкай Нямеччынай, і пачалася Другая сусветная вайна. Нямецкая армія ўварвалася ў Польшчу з захаду, а Чырвоная – з усходу. Саветы накіравалі больш за мільён чалавек з прылучаных земляў у ГУЛАГ.

Пасля таго, як у 1941 годзе Гітлер напаў на Саветы, прэзідэнт Рузвельт і яганая адміністрацыя пачала дапамагаць Сталіну і Савецкаму Саюзу. Вялізарная ваенная і матэрыяльная дапамога выкарыстоўвалася дзеля падтрымкі тэрору і генацыду ў Савецкім Саюзе. Дапамога перацякала да савецкіх дзяржаўных чыноўнікаў і іх ведамстваў і выкарыстоўвалася для абароны і ўзмацнення Сталіна і савецкага ўраду. (Ленін і Сталін ужо забілі 12 мільёнаў «ворагаў народу», перш чым Гітлер і нацысты прыйшлі да ўлады ў 1933 годзе.) На дзень смерці Сталіна (у 1953 годзе) ахвярамі дзяржаўнай палітыкі Савецкага Саюзу ўжо сталі ад 25 да 30 мільёнаў чалавек. З 50-х і да 80-х гадоў мноства савецкіх грамадзянаў надалей цярпела ад дзяржаўнай палітыкі.

«Ворагаў» усё яшчэ накіроўвалі ў ГУЛАГ ці на «лячэнне» ў псіхіятрычныя клінікі. А народ у большасці сваёй гібеў на ўзроўні жыхароў краін трэцяга свету, бо сацыялістычнае планаванне не спаўняла сваіх заданняў.

Несацыялістычныя крытыкі, многія з якіх працуюць у амерыканскіх універсітэтах і цэнтрах уплыву, часта жаляцца на жорсткасць капіталізму, ад якой церпяць менш забяспечаныя людзі. Аднак параўнайце непадпарадкаваную дзяржаве эканоміку і падкантрольны ўрад з сацыялістычнай эканомікай у савецкім стылі, і што вы пабачыце?

Дзяржава з неабмежаванай уладай – самы эфектыўны забойца.

========================================

*Падтрымоўвайце "Беларускі Дайджэст" ды заахвочвайце іншых!*

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 10-ць год СНД

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук**

Віскулі. Мінула дзесяцігоддзе пасля гістарычнай сустрэчы ў белавежскіх Віскулях найвышэйшых тагачасных кіраўнікоў Расійскай Федэрацыі, Украіны і Беларусі, якія ад імя сваіх дзяржаў -- заснавальніц Саюза ССР -- канстатавалі яго роспуск і падпісалі пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У мінулым нумары мы змясцілі розныя погляды на гэтую гістарычную падзею. Сёння -- аналітычны артыкул вядомага вучонага.

Што б хто не гаварыў, я перакананы ў тым, што іншага выйсця ў тых, хто сабраўся ў Віскулях, проста не было. Звонку магутны калос -- СССР -- дажываў свае апошнія дні. У прыродзе не існавала сілы, якая магла б спыніць яго развал. Навісла рэальная пагроза сур'ёзных міжнацыянальных канфліктаў, якія маглі б перарасці ў сапраўдную грамадзянскую вайну, куды страшнейшую за тую, што сталася вынікам Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года ў Расіі. Абсалютная большасць саюзных рэспублік не жадала надалей заставацца ў складзе СССР, сутнасць палітыкі якога немінуча вяла да разбурэння этнакультурнай самабытнасці народаў. З гэтым ніяк не маглі пагадзіцца прагрэсіўныя, нацыянальна арыентаваныя колы грамадства. Вастрыня гэтай праблемы ў меншай ступені непакоіла толькі беларусаў, паколькі значная частка з іх ужо змірылася са стратай свайго нацыянальнага "я"...

Прэстыжнасць СССР імкліва падала ў сувязі з хранічнай нявырашанасцю ў ім сацыяльных праблем, адсутнасцю грамадзянскіх свабод, што сталіся рэальнасцю ў цывілізаваных краінах свету. Таму так ахвотна ўсе саюзныя рэспублікі пайшлі на абвяшчэнне сябе незалежнымі, суверэннымі дзяржавамі. Маскве нічога не заставалася, як пагадзіцца з іх воляй.

Распад СССР у найбольшай ступені закрануў Расію, якая займала дамінуючае становішча ў гэтым гіганцкім дзяржаўным фармiраванні. Бо ўзнікла на тэрыторыі, якую царскі ўрад стагоддзямі далучаў да Расіі ваеннай сілай, хітрымі дыпламатычнымі прыёмамі. Пры гэтым тэрытарыяльнае нарошчванне Расійскай імперыі не абыходзілася і без кровапраліцця. І вось прыйшлі новыя часы...

У нас цяпер ужо нямодна чытаць аснова-стваральнікаў марксісцкага вучэння. Дарэмна: яны часам пісалі і такое, што спраўджвалася ў рэальнасці. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што ў Віскулях адбылося менавіта тое, што прадказваў Фрыдрых Энгельс яшчэ ў 1866 годзе ў артыкуле "Якая справа рабочаму класу да Польшчы?": "...што ж датычыць Расіі, дык яе можна згадаць толькі як уладальніцу велізарнай колькасці ўкрадзенай уласнасці, якую ёй давядзецца аддаць назад у дзень расплаты".

Лічу за гонар Расіі, што ў прадказанай Энгельсам сітуацыі яна пазбегла (у цэлым) крайніх сродкаў -- узброеных канфліктаў. Прымяненне зброі ў Літве, Латвіі і іншых саюзных рэспубліках перад самым канцом савецкай імперыі было хутчэй выключэннем, чым правілам. Распад "Саюза непарушага рэспублік свабодных" адбыўся шляхам аксамітнай рэвалюцыі, за што не лаяць, а дзякаваць трэба палітыкам, якія сваімі подпісамі ў Віскулях засведчылі заканамерную і непазбежную ў лёсе ўсіх імперый падзею.

..Абсалютна спакойна, памніцца, паставіліся да здзейсненага ў Белавежскай пушчы ў той час на Беларусі. Першыя старонкі ўсіх газет былі перапоўнены фотаздымкамі пра ход перамоў у Віскулях. Твары ўдзельнікаў гістарычнай акцыі вылучалі аптымізм. Шырока паведамлялася пра знаходжанне прэзідэнта Расійскай федэрацыі Барыса Ельцына ў беларускай сталіцы, яго выступленне ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Хто ўважліва чытаў ці слухаў гэтае выступленне, не мог не пагадзіцца з непазбежнасцю, натуральнасцю знікнення СССР з гістарычнай сцэны. Прывяду словы з той прамовы: "Адышла ў нябыт спроба аднаўлення Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік у ленінскай інтэрпрэтацыі. Рэспублікі адмовіліся добраахвотна дэлегіраваць цэнтру такі аб'ём паўнамоцтваў, які ён ад іх запатрабуе. Сёння церпіць няўдачу і паўфедэрацыя, і паўканфедэрацыя... Калі застанецца хоць бы невялікі элемент унітарызму, ёсць рызыка адраджэння той сістэмы, якая ўжо завяла нас у тупік".

Каб канчаткова вызваліць былыя савецкія народы ад страху падпарадкавання імперскаму цэнтру, трэба было знайсці больш дэмакратычную і гнуткую сістэму іх усебаковай садружнасці. У Віскулях яе, хай і не досыць дасканалую, выпрацавалі і назвалі Садружнасцю Незалежных Дзяржаў (СНД), да якой пазней далучыліся і іншыя былыя саюзныя рэспублікі.

Характэрна, што ніхто ў той час не аплакваў канчыну СССР. Пераважна на ўсіх узроўнях, ва ўсіх колах грамадства ішла размова, як у новых варунках наладзіць эканамічнае, палітычнае і культурнае жыццё. З роспускам СССР пагадзіліся, створанае СНД публічна ўхвалялі ўсе. Калі ў тыя "снежаньскія гарачыя дні" хтосьці і выступаў супраць, дык гэта быў Народны фронт і яго лідэр Зянон Пазьняк. Ён лічыў падзею ў Віскулях палітычнай гульнёй, а сам дагавор аб эканамічнай супольнасці -- блефам, утапічным абсурдам. "Для Беларусі, -- сцвярджаў Зянон Станіслававіч, -- няма іншай альтэрнатывы, як вяртанне на Захад, як шлях у аб'яднаную Еўропу, як незалежная дзяржаўная палітыка ў інтарэсах свайго народа". Але кола ўжо круцілася. 21 снежня 1991 года ў час падпісання Алмацінскай дэкларацыі да СНД далучылася яшчэ восем дзяржаў, створаных на базе колішніх саюзных рэспублік.

Верагодна, што такі ход падзей мог устрывожыць частку рускамоўных грамадзян Беларусі, перш за ўсё з-за моўнай праблемы. На гэта Станіслаў Шушкевіч тады даў недвухсэнсоўны адказ: "Больш дарэчы было б пытанне аб інтарэсах беларускамоўнай часткі насельніцтва. Але я ўпэўнены, што Садружнасць нікому не пагражае. Больш таго, умацоўвае наш суверэнітэт і спрыяе нацыянальнаму адраджэнню". Тагачасны старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь паслядоўна садзейнічаў таму, каб выконваўся прыняты ў студзені 1990 года Закон аб мовах, павышалася роля нацыянальнага фактару ў сферы народнай адукацыі, культуры, вярталася наша гістарычная памяць. Дарэчы будзе сказаць, што пагадненне аб стварэнні СНД і прынятая ў Алмаце Дэкларацыя былі афармлены на мовах усіх дагаворных бакоў, у тым ліку і на беларускай. Там падкрэслівалася: палітыцы моўнай экспансіі, як гэта было ў часы СССР, няма месца...

Народжаная ў Віскулях Садружнасць Незалежных Дзяржаў стварала Беларусі перадумовы для паўнацэннага суверэннага палітычнага развіцця. Але чыноўніцкі апарат, апынуўшыся сам-насам з эканамічнымі цяжкасцямі, моцна перапужаўся і стаў шукаць у Расіі хаўрусніка для сумеснай барацьбы з наступствамі, што прынёс распад СССР. Больш таго, кіраўніцтва Беларусі пасля прыходу на пасаду прэзідэнта А.Лукашэнкі ўзяло на сябе ролю ініцыятара здачы нядаўна атрыманага дзяржаўнага суверэнітэту шляхам палітычнага аб'яднання з Расіяй.

Такі крок быў адступленнем ад вызначанага ў Віскулях курсу. Суб'екты СНД, якія не пажадалі ўразаць свой суверэнітэт, дасягнулі непараўнальна большага за Беларусь у вырашэнні ўсіх надзённых праблем, у тым ліку і сацыяльных. У нас жа ўсе няўдачы і цяжкасці, што ўтварыліся з-за страху ісці ў рэчышчы пераменаў, сталі звальваць на Віскулі, называць гістарычны акт злачынствам.

З мэтай падаграваньня ў беларусаў настальгіі па СССР на якія толькі выдумкі не ішлі і не ідуць прыхільнікі былога! Хаця і добра разумеюць, што дарогі назад няма. Імперскія сілы штурхаюць беларусаў на поўную палітычную інтэграцыю з Расіяй, вынікам чаго павінна стаць адзіная саюзная дзяржава. Інтэгратары дазваляюць сабе плявузгаць на беларусаў як на народ, быццам бы не здольны на самастойнае дзяржаўнае развіццё, не жадаюць прызнаць, што наша дзяржаўнасць бярэ пачатак з часоў Полацкага, Тураўскага, Смаленскага, Пінскага, Мінскага і іншых княстваў Вялікага княства Літоўскага.

Ідэяй поўнай, рэальнай дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны перадавыя колы нашага грамадства жывуць ад часоў Люблінскай уніі 1569 года, калі яе палітычныя правы былі істотна ўрэзаны, і па сённяшні дзень. Найлепшых сыноў Беларусі ідэя палітычнай незалежнасці Радзімы не пакідала нават у самыя змрочныя часы. Ці ж не сведчаць пра гэта нацыянальна-вызваленчыя войны 1830--1831, 1863--1864 гадоў на беларускай зямлі, стварэнне ў лютым 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка таго ж года незалежнай, суверэннай краінай?

Глыбока ўсведамлялі значэнне дзяржаўнай самастойнасці і нашы суграмадзяне, тыя, чыім касцям сёння не даюць спакою бязбожнікі, што нішчаць Курапаты пад выглядам пашырэння Мінскай кальцавой дарогі. Многія з забітых сталінскімі катамі і знайшоўшых тут апошні прытулак былі гарачымі прыхільнікамі незалежнасці свайго народа. Каб у яго душы вякамі не жыло такое высокароднае імкненне, дык наўрад 27 ліпеня 1990 года Вярхоўным Саветам была бы прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, а 27 ліпеня 1991 года ёй нададзены статус канстытуцыйнага закона. 10 снежня 1991 года на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь за ратыфікацыю падпісаных у Віскулях пагадненняў было пададзена 263 галасы. Устрымаліся ўсяго два дэпутаты і толькі адзін быў супраць...

Але... ва ўладных структурах пераважалі кадры, якія жылі мінулым і не жадалі будаваць і мацаваць наш беларускі дом. І ўчора, і сёння для большасці чыноўніцкага апарату прыватныя інтарэсы ў дзесяткі разоў вышэй за нацыянальныя. Запраданцы нашай незалежнасці гандлявалі і гандлююць Беларуссю як нейкім таварам. Таму для дасягнення запаветнай мэты многіх пакаленняў беларусаў патрэбны грамадныя высілкі ўсяго народа, на што, як паказваюць і апошнія падзеі, мы яшчэ няздольныя.

Сённяшнія афіцыйныя ідэолагі імкнуцца падвесці людзей да думкі, што толькі палітычнае аб'яднанне з Расіяй дапаможа пераадолець эканамічныя цяжкасці. На справе ж эканамічны застой краіны ў значнай ступені выкліканы арыентацыяй кіраўніцтва краіны выключна на ўсходні напрамак, залежнасць ад "старэйшага брата" ва ўсім. Як і было раней.

Палітыка сучаснай беларускай дзяржавы ў самых розных сферах жыцця далёкая ад карэнных нацыянальных інтарэсаў беларускага народа. Сёння яшчэ больш пераконваешся ў праўдзівасці слоў нашага выдатнага навукоўца, палітычнага і культурнага дзеяча Аляксандра Цьвікевіча (расстраляны ў 1937 г.): "Толькі свая ўлада на сваёй зямлі паможа беларусам загаварыць на роднай мове і выбіцца з той беднасці, у якую загналі яго".

Ухіленне дзяржаўных дзеячаў Беларусі ад таго курсу, які быў вызначаны падпісанымі ў Віскулях дакументамі, не прынёс яе народу аніякай карысці. Пэўнае ігнараванне СНД і пераход да палітычнай інтэграцыі з Расіяй не дазваляюць нам займацца ажыццяўленнем і лёсавызначальных задач нацыянальна-культурнага адраджэння, якія паспяхова вырашаюцца ў краінах гэтай Садружнасці.

Верыцца, аднак, што хаця зараз і працягваецца ганьбаванне ідэі беларускага дзяржаўнага суверэнітэту, наш народ палітычна выспее і не аддасць сваю вышэйшую каштоўнасць, вернутую яму ў 1991 годзе, у чужыя рукі. І рана ці позна да ўлады ў краіне прыйдуць асобы са здаровай нацыянальнай самасвядомасцю, створаць усе магчымасці народу краіны жыць і развівацца на сваім прыродным падмурку. Віскулі адкрылі такую магчымасць.

Але ўсё гэта яшчэ наперадзе. Дык давайце не будзем бэсціць Віскулі за тое, што тут

дальнабачныя палітычныя дзеячы выдалі пасведчаньне аб фактычнай смерці СССР і нараджэньні на яго былой тэрыторыі незалежных дзяржаў. (Народная Воля)

# ПАД ЗНАКАМ "ПАГОНІ"

### СУМНЫЯ РАЗВАГІ...

Хоць сто разоў паўтарай слова "халва" — у роце салодка ня стане. Тым ня менш на працягу свайго прэзідэнцтва Лукашэнка толькі гэтым і займаецца. "Жыццё на Беларусі наладжваецца!" – абвяшчае ён штогод з нязьменным аптымізмам і вар'яцкай самазадаволенасьцю местачковага цыгана, які ўдала падмануў прасьцяка-селяніна, прадаўшы яму бяззубага нябогу-каня. За гэтым небясьпечным аптымізмам – састарэлы дыягназ хранічнай хваробы любога зацятага дыктатара, які пляваць хацеў на дабрабыт народу і шчыруе найперш дзеля захаваньня асабістай абсалютнай улады. Лукашэнка – ня выключэньне. Ён – кароль бессаромнай хлусьні, якая з першага дня яго кіраваньня ўзьведзеная ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Але ніводная лукашэнкаўская дэкларацыя наконт паляпшэньня жыцьця беларусаў так і ня выкананая! І ўжо на сёньня любыя абяцаньні хоць нейкім чынам падвысіць узровень дабрабыту людзей нічога, апроч раздражненьня, не выклікаюць. Нават у самых актыўных некалі прыхільнікаў прэзідэнта.

Закончыўся год зьмяі. Якім ён быў для нас? Найперш, годам прэзідэнцкіх выбараў. Годам нерэалізаваных магчымасьцяў.

Тыя, хто прагаласаваў за Лукашэнку ў чарговы раз, добраахвотна выбралі сваім лёсам далейшае жабрацтва. Лукашэнка з радасьцю пайшоў ім насустрач. І пенсіянеры, якія абедзьвюма рукамі прагаласавалі за свайго любімца, сёньня разгублена чухаюць патыліцы перад магазіннымі паліцамі. У параўнаньні з пачаткам году рэзка падскочылі цэны на малако, хлеб, кілбасу. Ды плюс кватрплата. Хто ж з гэтых дзядкоў ды бабулек, затлумленых дзяржпрапагандай, мог даць рады, што аплата іхняга жытла павялічыцца за гэты час ледзь не ўдвая! "Вось дык прэзідэнт!" – усё часьцей чуецца ў чэргах па пенсію. Ды і яна, гэтая жабрацкая пенсія ў 30-50 даляраў ужо выплочваецца там-сям у правінцыі нясвоечасова. Пенсіянеры, крыху аблашчаныя прэзыдэнтам да выбараў, сёньня ледзь зводзяць канцы з канцамі. Ня ў лепшым становішчы іхнія дзеці і ўнукі. Сёньняшнія беларусы сярэдняга веку нагадваюць габрэяў колішняга Савецкага Саюзу: яны з кожным днём усё больш пераконваюцца, што жыць тут немагчыма, перспектывы на хоць нейкую самарэалізацыю – аніякіх. Літаральна ўсе начальніцкія пасады, зьнізу да верху, займаюць людзі, асноўнай службовай перавагай якіх зьяўляецца не прафесіяналізм, а ўяўная адданасьць Лукашэнку. Таму дзейнасьць народнай гаспадаркі скіраваная на Беларусі не на агульнакарысны вынік, а на падтрымку бязглуздай антынароднай палітыкі вузкага кола дзяржаўных чыноўнікаў – старанных лёкаяў Лукашэнкі.

Вось яны, рэаліі году, які закончыўся! Работнікі сельскай гаспадаркі Беларусі не атрымалі заробак за кастрычнік. Нават пры тым, што гэты віртуальны заробак больш нагадвае міласціну, бо не перавысіў у сярэднім 30 даляраў. Дамарослая калгасная вытворчасьць у чарговы раз распісалася ў поўнай сваёй бездапаможнасьці. Доказ таму – паліцы беларускіх крамаў, забітыя расійскімі прадуктамі. Датацыі ў сельскую гаспадарку склалі ў Расіі 7 даляраў на гектар, у Беларусі – 70. А аддача – нулёвая. Купляючы расійскую кілбасу (далёка ня лепшай якасьці) беларус "працуе" на ўмацаваньне расійскай эканомікі. Па той простай прычыне, што беларускай ужо не існуе. Рабочыя большасьці мінскіх заводаў былі вымушаныя пайсьці са сьнежня на калядныя вакацыі. Няма грошай на аплату іх працы. Неканкурэнтназдольнымі беларускімі таварамі забітыя ўсе склады. Вытворчасьць пачала зьядаць сама сябе. Наладжваньне сапраўды рынкавых адносінаў, карэннае рэфармаваньне эканомікі з улікам нацыянальных інтарэсаў – засталіся ў марах. Было б дзіўна, каб Лукашэнка ўзяўся перарабляць закасьнелую таталітарную дзяржаву ў краіну, дзе дбалі б найперш аб правах чалавека. Ды што там эканоміка?! Ня без актыўнага ўдзелу ўладаў на ладан дыхаюць культура ды мастацтва. Не спыняецца самае дзікае цкаваньне людзей, якія не жадаюць думаць так, як думае Лукашэнка. Закрываюцца газеты, стварaюцца перашкоды разьвіцьцю ўсяго нацыянальнага і самабытнага. Грошай нестае на выданьне беларускіх кнігў. Гонар нацыі – пісьменьнікі Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч на дзяржаўным узроўні абвешчаныя ледзьве ня ворагамі народу.

Чым добрым быў адметны год мінулы? На жаль, не прыгадаю.

Са сьнежня ўдвая падаражэў праезд у грамадзкім транспарце, але цана за квіток у 80 рублёў – не мяжа. Гаворка гэтымі днямі ідзе ўжо пра трайную падвышку. Між тым тэма сталічнага грамадзкага транспарту – тэма асаблівая. Замежнікі, якія ў час пік траплялі ў перагружаны вагон метро ці тралейбус, вар'яцеюць ад нечаканых і надта жорсткіх выпрабаваньняў. З-за кепскай арганізацыі руху з мінскіх ускраінаў праблематычна дабрацца да цэнтру гораду.

З трывогай кожны з нас чакае чарговага росту кватэрнай платы. Большасьці гараджанаў гэта будзе не па кішэні. Асобныя ўжо цяпер адмаўляюцца аплочваць жыльлёва-камунальныя паслугі. Асноўны аргумент: за што плаціць, калі ў кватэрах холадна! Так, у сувязі з марозным надвор'ем тэмпература ў кватэрах не падымаецца вышэй за 15-18 градусаў. Здаецца, беларусы ў гэтыя калядныя, але не надта радасныя дні, як ніколі яскрава адчулі сябе закладнікамі антычалавечай лукашэнкаўскай палітыкі. Яны ўжо ня вераць прэзідэнцкім прамовам "мы жывем кепска таму, што дрэнна працуем". Бадай, беларусы ніколі яшчэ так не працавалі, каб выжыць. Навукоўцы і настаўнікі, урачы і работнікі культурнай сьферы вымушаныя займацца камерцыяй альбо падпрацоўваць на двух-трох месцах. Амаль кожны са студэнтаў у час летніх вакацыяў сноўдае па замежжы ў пошуках працы, каб аплаціць сваё далейшае навучаньне ў Беларусі. У бацькоў на гэта ўжо не хапае грошай. Зьняверaныя і падманутыя Лукашэнкам людзі з кожным днём становяцца больш жорсткімі і абыякавымі да таго, што адбываецца на іх радзіме. Улады ўмела маніпулююць гэтымі настроямі ў сваю карысьць. Замест дарагога хлеба – танная і кепская гарэлка, замест нацыянальнай культуры – балаганныя відовішчы кшталту "дажынак" і "славянскіх базараў". Па словах начальніка ўпраўленьня культуры Мінгарвыканкаму Віктара Кураша, наваго̀дні феерверк 1 студзеня ля абеліску "Мінск – горад – герой" абыдзецца падаткаплацельшчыкам у 60 мільёнаў беларускіх рублёў. Нікому з дзяржаўных дзеячоў і ў галаву не прыйшло, каб падзяліць гэтыя грошы сярод жабракоў-бюджэтнікаў: настаўнікаў ці ўрачоў. Маўляў, галодны на мітынг пратэсту ня пойдзе, яму халтурыць ды падпрацоўваць трэба, а не з рэжымам змагацца... Год зьмяі, год гада сканаў. Ён не прынёс нам палёгкі. Засталося толькі цьвёрдае перакананьне, што рэжым Лукашэнкі цярпець больш намагчыма. Якімі б абнадзейваючымі абяцанкамі ён зараз ні раскідваўся, нават самая непісьменная і забітая палеская бабулька з-пад Брагіна яму проста не паверыць. Пачуцьцё звычайнага голаду ды холаду перашкодзіць. І ў хлусьні ж ёсьць мяжа. І якімі б абыякавымі мы зараз ні былі, свой лёс нам трэба вырашаць самім. Да чарговых прэзідэнцкіх выбараў проста ня кожны дажыве. Новы год – год Каня, год "Пагоні" ўладарна імчыць па краіне. Конь чакае свайго вершніка. Разумнага і дальнабачнага, гаспадарлівага і сумленнага. Ці ж няма ў Беларусі такіх?!

Год "Пагоні" дае нам надзею!

**Алесь ГАРКУН.**

**********************************************************

# Нам -- зусім у іншую "страну".

Вельмі ўдзячны паважанаму прафесару Леаніду Лычу за аб'ектыўны і грунтоўны артыкул "Віскулі" ў "Народнай волі". Бо калі сам пагляджу ў бок плакальшчыкаў па савецкай імперыі, дык разумею: яны з-за сваіх слёз не здольныя бачыць, якой на самай справе была "такая страна", нібыта разваленая белавежскімі "зубрамі".

Я не палітык -- просты беларус, узрошчаны "такой страной" і выхаваны яе ідэалагічнай дэмагогіяй. Помню: калі ў далёкім 1950 годзе пасадзілі майго знаёмага настаўніка Мікалая Сухарава з Ліпскай пачатковай школы былога Бягомльскага раёна пасадзілі на 5 год за прыпеўку "Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рызіну", тое тады не надта закранула мяне. Відаць, спрацавала атрута той нялюдскай ідэалогіі. На жалобным мітынгу, калі памёр адзін з самых страшных сатрапаў свету, я глядзеў, як выціраюць слёзы жанкі, і сам ледзь не плакаў: "Як жа мы будзем без Сталіна?". У той жа дзень на ўроку ў класе малады настаўнік гісторыі Кузьмянкоў узяў з рук дзяўчынкі газету, бо яна моцна шамацела (а ў ёй быў здымак Сталіна), скамечыў і ўкінуў у грубку. Нейкі стукач імгненна паведаміў пра гэтае "злачынства" куды трэба. Настаўніку Кузьмянкову дзверы ў школу былі зачыненыя назаўжды...

Падобныя факты і зьявы пакрысе прымушалі мяне і праз мыльныя прапагандысцкія пухіры больш аб'ектыўна бачыць і ацэньваць жыццё. Хоць тады яшчэ хацелася думаць: гэта толькі ў нашай вёсцы такія безгаспадарчасць і развал, амаральнасць і падман. І толькі дзякуючы гарбачоўскай перабудове я зразумеў, што ў "развітым сацыялізме" насамрэч вельмі мала сацыялізму, да таго ж ён яшчэ і патрабуе "человеческого лица"... Сведчанне ўсяго гэтага ляжала на паверхні: разбураная самой савецкай уладай сельская гаспадарка ва ўсёй вялізнай краіне, ад чаго аграрна-індустрыяльная дзяржава апынулася без хлеба; ліквідацыя прыватнай уласнасці, што сквала ланцугамі рабства душу чалавека: ён перастаў быць самім сабой, вольным творцам уласнага жыцця -- стаў уласнасцю ладу, дзяржавы, бездухоўным рабом: іду туды, куды пашлюць, раблю тое, што загадаюць...

Вось і дажыліся! Плакальшчыкі па СССР, зірніце праз свае слёзы і паглядзіце, у якіх "палацах" 70 гадоў жыў і зараз жыве народ, асабліва вёска; якой "культуры" быту дасягнулі мы за савецкім ладам. Згадайце, калі на плячах нашых людзей зьявіліся дабротныя скураныя курткі і дублёнкі; як і дзе, на якіх Гаваях ці ў Карлавых Варах "адпачывалі" нашы рабочыя, сяляне, ўрачы, настаўнікі, служачыя сярэдняга дастатку; колькі капеек з заробленага рубля давала нашаму працаўніку аплакваемая вамі "такая страна" і г.д.

А паспрабуйце сёння ў час стыхійнага бедства ці раптоўнай хваробы выклікаць праз тэлефон дапамогу, скажам, у вёсцы Мацееўка Бярозкаўскага сельсавета з Докшыц, калі ўладальніка адзінага на вёску тэлефона Альбіны Мацко не будзе дома. Збіваць замок ці ламаць рамы вокнаў? Вось і згарыць ваш скарб ці памрэ без медыцынскай дапамогі родны чалавек. А такія бестэлефонныя ўсе, амаль усе вёскі.

Такіх дасягненняў "страны раскрепощенного труда" можна прыпомніць безліч. І гэта пры ўмове, што шматмільённы народ-"хозяин" жыў-пакутаваў 70 год на гарах золата Зейска-Бурэінскага басейна, на невычэрпных каменнавугальных радовішчах ды падземных акіянах нафты і газу. Хто тады добра жыў? Адно начальства.

Вось і плачуць па "такой стране" цэкоўскія былыя сакратары, вайсковыя адстаўнікі і ачмураныя лжывай савецкай і цяперашняй прапагандай вясковыя пенсіянеры. Вось і трымаюцца яны за ўчарашні дзень, і высільваюцца, каб адрадзіць тагачасныя парадкі. Не ведаю, як у іншых былых рэспубліках былой "страны советов", а ў Беларусі дык многа ўжо і вярнулі з таго, савецкага. А ў нечым дык нават запазычылі тое-сёе і ад царскага генерал-губернатара Мураўёва-вешальніка. Калі ў 1927 годзе пры праверцы дзейнасці Бягомльскага РВК інспектар акружнога ВК зазначыў з задавальненнем, што ўсе школы і дзяржаўныя ўстановы пераведзены на беларускую мову, то сёння кіраўнік беларускай дзяржавы, сам беларус, з задавальненнем пераконвае расійскіх журналістаў на расійскай мове: "Так мы же -- русские!".

Плакальшчыкі па звыродным, антынародным мінулым, вытрыце слёзы! З'ездзіце, калі можаце -- вы ж "добра" жывяце -- у Амерыку ці Францыю, Бельгію ці Данію, Швецыю ці Нарвегію. Гэта краіны, намнога бяднейшыя зямнымі багаццямі за аплакваемую вамі "такую страну". Наведайце там кватэры сярэдняга дастатку. Я перакананы, што пры параўнанні іх жыцця з жыццём у "такой стране" нават вы зразумееце, як памыляліся, лаючы "гнілы капіталізм". Нам бы ў тую "гніласць" -- ды куды са сваімі дзіравымі лапцямі...

Віктар СКАРАХОД, ветэран працы, удзельнік Айчыннай вайны. "Народная Воля" № 1, 2002.

**********************************************************

## ПЭТЭР ШЫДЭР: РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ ЦАЛКАМ НЕПРЫМАЛЬНЫ

*Аўстрыйскі сацыяліст Пэтэр Шыдэр быў абраны прэзыдэнтам парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы ў панядзелак 21 студзеня. На сваёй пасадзе Пэтэр Шыдэр зьмяніў брытанскага лорда Расэла-Джонсана, які сыйшоў у адстаўку. У сваім выступе падчас інаўгурацыі ў Стразбургу новаабраны прэзыдэнт заявіў наступнае: "Беларусь па-ранейшаму застаецца праблемаю. З аднаго боку, сутнасьць прэзыдэнцкага рэжыму не зьмянілася і застаецца цалкам непрымальнай ў сьвятле дэмакратычных і прававых нормаў. З другога боку, ізаляцыя ня вельмі садзейнічае зьмене такога становішча. Асамблеі давядзецца праводзіць далікатную палітыку балянсыроўкі паміж падтрыманьнем прагрэсыўных сілаў Беларусі й неабходнасьцю не папушчаць дыктарарскай сутнасьці правячага рэжыму".*

==========================

# “Я за свой народ жыццё аддам”

**4 студзеня споўнілася 50 гадоў з дня нараджэння былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі. У знамянальны юбілей бліскучы генерал, усеагульны любімец, несумненна, атрымаў бы шмат віншаванняў. Ён карыстаўся павагай і папулярнасцю і ў саміх міліцыянтаў, і ў цывільнай публікі. Але вось ужо амаль тры гады Юрыя няма разам з намі.**

За час працы ў міліцыі ён хутка рухаўся па службовай лесвіцы: прайшоў шлях ад шэраговага следчага да міністра ўнутраных справаў, якім стаў у 1994 годзе. На гэтай пасадзе “пратрымаўся” крыху болей за год. Яго канфлікт з Лукашэнкам быў непазбежны, бо генерал ніколі не пераступіў праз прынцып – служыць, а не прыслужваць. Чаго толькі каштавала Захаранку адмовіцца пасласць салдат унутраных войскаў працаваць на прэзідэнцкім лецішчы, бо, як заявіў генерал, задачы яго падначаленых зусім іншыя. “Дэмарш” кіраўніка МУС выклікаў тады неверагоднае абурэнне Лукашэнкі.

Захаранка быў адным з ня-многіх, хто казаў вышэйшай асобе праўду ў вочы. Юры Мікалаевіч прыгадваў пра размову, калі Лукашэнка казаў яму: “*Ты павінен выканаць любы мой загад*”. Захаранка адказаў на гэта: “*Людзей расстрэльваць не буду, Канстытуцыю парушаць не буду*”. “*Калі ты не выканаеш любы мой загад, на цябе надзенуць кайданкі*”, — сказаў А.Р. У 1995 годзе ён зняў з пасады нязручнага міністра быццам бы за “парушэнне фінансавай дысцыпліны”.

Вядома таксама і пра сустрэчу апальнага генерала з Лукашэнкам пасля адстаўкі. Рыгоравіч недвухсэнсава папярэдзіў: “*Уціхамірся, а то аднойчы ты можаш знікнуць, і ніхто не даведаецца, дзе ты і што з табой*”.

Сваёй маці, Уляне Рыгораўне, Юры Мікалаевіч сказаў: “*Мама, калі са мной што-небудзь здарыцца, ведай, што вінаваты ў гэтым толькі адзін чалавек – Лукашэнка*”...

7 траўня 1999 года Захаранка знік.

І сведкі таго, як гэта адбылося, ёсць. Калі ўвечары Юры Мікалаевіч вяртаўся дадому, на яго напалі невядомыя і запіхнулі ў машыну. А яшчэ напярэдадні Захаранка паведаміў знаёмым, што за ім сочаць.

Як лічаць паплечнікі, ва ўладаў канчаткова здалі нервы пасля таго, як генерал пачаў ствараць Беларускі саюз афіцэраў і вайскоўцаў. Улічваючы аўтарытэт экс-міністра, рэжым спужаўся, што згубіць сваё галоўнае апірышча – сілавікоў.

Грамадская камісія па расследаванні знікнення Захаранкі перакананая, што да яго выкрадання спрычыніліся спецслужбы. Пра афіцыйнае ж следства ўжо ніхто і не ўзгадвае. Бяздзеянне праваахоўнікаў яскрава пацвяр-джае папярэднюю версію.

Сям’я Захаранкі – жонка, дзве дачкі і ўнук зьехалі ў Нямеччыну. Паводле іх словаў, у Беларусі ім пагражалі, бо яны пастаянна нагадвалі пра лёс Юрыя. Маці, Уляна, засталася адна. Пасля смерці старэйшага сына Юра быў для яе апошняй апорай.

З Нямеччыны 18-гадовая дачка Юля даслала ў прэсу ліст.

“*Калі б мой тата не меў ніякага дачынення да палітыкі, ён зараз быў бы разам са мной. Жывы,* — піша Юля. – *Але ён змагаўся за нармальнае жыццё ў нашай краіне. За годнае жыццё кожнага чалавека. І ў выніку паплаціўся сваім...*

*Я мару прыехаць у Беларусь. Мару абняць сваіх бабулек, блізкіх людзей. ...Баюся, што ніколі больш не пабачу татавы тапачкі, якія стаяць у калідоры нашай мінскай кватэры. Не пабачу плакат на сцяне ў калідоры з надпісам “Ніколі не здавайся!”. Не пабачу татавы ложак. Рэчы з яго пахам. Хутка, напэўна, гэты пах таксама знікне... Застанецца толькі бяздушныя бе- тонныя сцены, якія доўгія гады будуць увасабляць наша гора...*

*Я кожнай клетачкай ненавіджу таго чалавека, які ўзяў на сябе права распараджацца жыццямі і лёсамі прыстойных і сумленных людзей.*

*Я звяртаюся да забойцы: ты ўжо пракляты на векі вечныя. Падумай хаця б пра сваіх дзяцей, унукаў і праўнукаў – ім непазбежна прыйдзецца адказваць за твае злачынствы. Ім прыйдзецца пагля-дзець у мае вочы, у вочы маіх будучых дзяцей...*

*Я разумею стан дзяцей Карпенкі, якія могуць хаця б па-класці кветкі на магілу свайго бацькі. Я не маю такой магчымасці. Забойцы, аддайце хаця б цела майго бацькі!..*

*Мой татачка, любімы, дарагі! Нават калі цябе ўжо няма на гэтым свеце, ты ўсё роўна павінен адчуваць увесь мой боль і мае пакуты. Я маю маленькую, але ўсё-такі надзею. Надзею на цуд*”.

...“*Я за свой народ жыццё аддам*”, — адказваў Захаранка на парады кінуць усё і жыць спакойна. З вуснаў валявога генерала гэта гучала не пафасна, а цалкам натуральна... Рэгіна СНЕЖЫНА (Рабочы)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Беларусы ўсіх краін, яднайцеся!

Вольга Бабак (R.R.)

Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", заснаванае яшчэ ў 1990-м годзе, адкрыла інфармацыйны цэнтар, які называецца "Беларусь аб'яднаная". Ініцыятары яго ўтварэньня кажуць, што даўно наспела патрэба вывесьці сувязі паміж нашымі суайчыньнікамі ў Беларусі й за мяжой на новы, сучасны ўзровень і наладзіць доўгатэрміновыя партнэрскія сувязі паміж беларускай дыяспарай і ўласна Беларусьсю.

Стварыць інфармацыйны цэнтар пры “Бацькаўшчыне” было вырашана ў ліпені мінулага году на Трэцім зьезьдзе беларусаў сьвету. Са сьнежня цэнтар пачаў выпускаць свой першы інфармацыйны бюлетэнь "Беларусы ў сьвеце", у якім паведамляецца пра ўсе асноўныя падзеі ў жыцьці беларускіх дыяспараў ва ўсім сьвеце, а таксама некалькі тэматычных дайджэстаў: "Грамадзтва", "Культура" й "Эканоміка", у якіх штомесяц паведамляецца пра ўсе асноўныя падзеі ў жыцьці нашае краіны. Бюлетэнь ужо цяпер мае каля сотні падпісчыкаў у Беларусі й каля 200 - за мяжою. Частка зь іх атрымлівае інфармацыю праз Інтэрнэт, астатнія - у друкаваным выглядзе. Але пляны заснавальнікаў цэнтру натуральна, гэтым не абмяжоўваецца.

Гаворыць старшыня Рады "Бацькаўшчыны" Алена Макоўская.

**А.М.:** - Перш за ўсё, зараз мы зьбіраем інфармацыю аб школах, усіх навучальных установах, бібліятэках, цэрквах, музэях, пэрыядычных выданьнях беларускай дыяспары за мяжою. Уся гэтая інфармацыя будзе ўтрымлівацца на сайце нашай арганізацыі.

"База зьвестак" будзе месьціцца на сайце www.zbsb.org, а потым, зь цягам часу, абавязкова зьявіцца й у друкаваным выглядзе, - кажа Алена Макоўская. Магчыма, гэта дазволіць пэўным чынам пераадолець ізаляванасьць беларускіх дыяспараў, сувязі паміж якімі збольшага трымаюцца на роўні асабістае перапіскі.

**А.М.:** - На сёньняшні дзень мы канстатуем, што інфармацыі, якая выходзіць зь Беларусі, вельмі мала, яны абмежаванае, даходзіць да беларускай дыяспары са спазьненьнем. Хоць цікавасьць у такой інфармацыі вельмі вялікая. Грунтоўнага цэнтралізаванага інфармаваньня беларускай дыяспары на сёньнішні дзень няма. Таму беларус у Сургуце ня ведае, што робіць беларус у Аўстраліі, і яшчэ менш інфармацыі даходзіць зь Беларусі.

Сёньня "Бацькаўшчына" мае кантакты з больш як двумастамі арганізацыямі беларусаў замежжа. Аднак толькі з 30-ю гэтыя кантакты ажыцьцяўляюцца праз Інтэрнэт: пераважна гэта прыватныя электронныя адрасы, якія належаць прадстаўнікам маладога пакаленьня. Бальшыня замежных беларусаў - людзі сталага веку й досыць архаічныя ў сваіх прыхільнасьцях. (Некаторыя дагэтуль набіраюць тэксты сваіх пасланьняў на друкарцы).

Варта зазначыць, між тым, што далёка ня ўсе беларусы замежжа кантактуюць менавіта з "Бацькаўшчынай", у статуце якой як базавыя прынцыпы запісаныя: падтрымка незалежнасьці Беларусі, прапаганда яе гісторыі, прыярытэтная роля нацыянальнае мовы. За апошнія некалькі гадоў на "інтэграцыйнай" хвалі быў утвораны цэлы шэраг "альтэрнатыўных", так бы мовіць, суполак, якія мелі на мэце зусім іншае. Асабліва "ўраджайнымі" на такія ўтварэньні былі Расея, Украіна й Малдова.

Прэзыдэнт Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына" Анатоль Грыцкевіч: - З пункту гледжаньня дэмакратыі могуць ствараццa любыя суполкі (гэта права грамадзянаў), але калі за гэта бярэцца дзяржава, то зразумела, што гэтыя суполкі - чыста палітычнага характару, і мэтаў "Бацькаўшчыны" яны, зразумела, не падтрымліваюць.

**Гісторык Галіна Сяргеева:** - За 3 месяцы было створана больш за 35 суполак. Вы людзі разумныя, разумееце, што, калі дзесятак гадоў працавалі 14 арганізацыяў, працавалі стала, добра, і раптам - за 3 месяцы - яшчэ 35... Гэта былі высілкі й нашых уладных структур, і расейскіх. Стварылі - і добра! Каб толькі яны працавалі... Але шмат якіх зь іх ужо няма. Яны былі патрэбныя толькі на той час, каб зарэгістраваць гэтую нацыянальна-культурную аўтаномію беларусаў Расеі.

Яшчэ пры канцы мінулага году ў Беларусі павінны быў прайсьці кангрэс гэтых "альтэрнатыўных" згуртаваньняў. Аднак ён так і не адбыўся. Дагэтуль застаецца адкрытым пытаньне, хто ж на дзяржаўным роўні займаецца пытаньнямі беларускай дыяспары. У свой час Дзяржкамітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў распрацаваў праект закону "Аб суайчыньніках", аднак пакуль ён так і застаецца праектам, да якога, між іншым, спэцыялісты "Бацькаўшчыны" маюць шэраг прэтэнзіяў.

**Г.Сяргеева:** - За аснову быў узяты цалкам расейскі праект. Але зь яго выкінулі тое, што, на думку нашых, патрабуе фінансавых выдаткаў...

У Расеі, дарэчы, сёньня жыве самая вялікая беларуская дыяспара: яна налічвае 1 мільён 54 тысячы чалавек. Больш за 400 тысяч беларусаў жывуць ва Ўкраіне. Каля 250 тысяч - у Польшчы. У Казахстане на момант распаду СССР было 180 тысяч беларусаў, цяпер засталося 110 (адтуль выяжджалі, але пераважна не ў Беларусь). Больш за 100 тысяч беларусаў жывуць у Латвіі, 28 тысяч - Летуве. Каля 16 тысяч - у Малдове. Дзясяткі тысяч налічваюць дыяспары ў Вялікай Брытаніі, Нямеччыне, Аўстраліі. У Ізраілі жывуць каля 120 тысяч выхадцаў зь Беларусі, прычым, далёка ня ўсе зь іх ідэнтыфікуюць сябе як габрэі. Наагул жа сярод краінаў далёкага замежжа па колькасьці беларусаў наперадзе ЗША: там жыве каля 600 тысяч былых грамадзянаў Беларусі. Да апошняга часу менавіта Злучаныя Штаты найбольш інтэнсіўна папаўняліся эмігрантамі зь Беларусі. Як абсалютна новую зьяву экспэрты адзначаюць палітычную эміграцыю з ужо незалежнай Беларусі. Яе пачатак прыпадае на сярэдзіну 1990-х. Але калі сьпярша выяжджалі адзінкі, то цяпер ідзе гаворка ўжо пра сотні палітэмігрантаў.

Што да палітэмігрантаў, то ў адрозьненьне ад тых, хто зьехаў па эканамічных матывах, яны адразу ж пасьля прыбыцьця ў краіну эміграцыі стараюцца зьвязацца ў суполкі й навязаць сувязь са Згутаваньнем "Бацькаўшчына". Тут знаходзіцца месца для ўсіх, хто лічыць сябе беларусам - незалежна ад таго, куды яго закінуў лёс.

*У артыкуле сказана, што ў ЗША жыве 600 тысяч былых грамадзянаў Беларусі. Трамайце мяне, бо са сьмеху жывот радарву…

## Энцыклапедыя беларускай навукі

**БЕЛТА.**

Своеасаблівым вынікам дасягненняў беларускіх вучоных за мінулае стагоддзе стала кніга «Навука Беларусі ў XX стагоддзі», якая выйшла нядаўна ў выдавецтве «Беларуская навука». Як расказаў карэспандэнту БЕЛТА старшыня рэдакцыйнай камісіі былы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі акадэмік Мікалай Барысевіч, на працягу шасці гадоў над гэтай манаграфіяй працавалі 109 акадэмікаў, членаў-карэспандэнтаў і дактароў навук. Упершыню быў сабраны разам матэрыял аб станаўленні і развіцці сістэмы арганізацыі навукі ў Беларусі за 100 гадоў.

У кнізе ёсць дадатак, у якім змешчаны звесткі аб акадэміках, членах-карэспандэнтах, ганаровых і замежных членах Нацыянальнай акадэміі навук і Акадэміі аграрных навук Беларусі. Адзначаны таксама вучоныя, выбраныя членамі іншых акадэмій, дактары навук, вучоныя—героі працы, заслужаныя дзеячы навукі, лаўрэаты дзяржаўных прэмій і аўтары навуковых адкрыццяў. Паводле слоў Мікалая Барысевіча, кніга стала своеасаблівай энцыклапедыяй беларускай навукі ў XX стагоддзі.

==============================

# Беларуская Беларусь

тацьцяна палякова (Згода)

Мой суразмоўца — філосаф Алесь Анціпенка, аўтар і выканаўца шэрагу інтэлектульных праектаў, якія ў свой час рэалізоўваліся Беларускім фондам Сораса. Аўтар артыкулаў у "ЗНО" і "Фрагмэнтах", выданьнях, якія істотна зьмянілі беларускі інтэлектуальны ляндшафт.

— У інтэрв'ю нашай газэце Валянцін Акудовіч сказаў: "Беларусь ніколі ня будзе цалкам беларускай". Што вы думаеце на гэты конт?

— Больш дакладна сказаць, што Беларусь ніколі ня будзе цалкам беларускамоўнай. Але гэта нармальны стан. Швэцыя, напрыклад, ня ёсць цалкам аднамоўнай. Монамоўнасць ці аднамоўнасць — гэта хутчэй фэномен гэтак званых вялікіх, самадастатковых дзяржаваў. І найчасьцей за гэтай вялікасьцю стаяла ў мінулыя часы якая-небудзь імпэрская ідэя. Увогуле, у часы глябалізацыі ня можа быць аніякіх самадастатковых дзяржаваў. Калі ж Акудовіч меў на ўвазе не аднамоўнасьць, а беларускасьць Беларусі, то апошняе магчыма. Больш за тое, я думаю, што беларуская прастора якраз і ёсьць менавіта беларускай прасторай, нягледзячы на яе сёньняшнюю расейскамоўнасьць. Беларускасьць перш за ўсё ў тым, як самаідэнтыфікуецца чалавек. Вядома, што, паводле апошняга перапісу, больш за 80 адсоткаў нашага насельніцтва назвала сябе беларусамі.

— А калі я, жывучы тут, самаідэнтыфікуюся як эфіёп?

— Тады вы — эфіёп. Але для таго, каб адбываўся працэс самаідэнтыфікацыі, патрэбна сыстэма знакаў альбо сымбаляў. Часам гэтымі знакамі зьяўляюцца проста нейкія натуральныя рэчы, на якія мы звычайна не зьвяртаем увагі. Напрыклад, тое, што мы маем такое неба над намі, якое мы бачым, адразу ж робіцца знакам самаідэнтыфікацыі. Калі чалавек трапляе, скажам, у Італію і глядзіць на італьянскае неба ноччу, першае, што яму прыходзіць у галаву, што яно не такое, якое ён шмат разоў бачыў у Беларусі. Ёсьць шэраг і абсалютна іншых знакаў, створаных культурай. Скажам, Сафійскі сабор у Полацку. Альбо Белая вежа. Гэта цалкам унікальныя знакі, дамінантныя кропкі ня толькі культурніцкай прасторы, але й сьвядомасьці. Дарэчы, трэба адзначыць, што культуры ствараюць таксама й унутраныя ідэнтыфікацыйныя знакі, якія жывуць толькі ў сьвядомасьці і функцыянуюць праз яе. Пералік гэтых знакаў можна доўжыць, але сутнасьць у тым, што, хочам мы гэтага ці не, некаторыя натуральныя знакі й тыя, якія ствараюцца культурай, адначасова ёсьць індэнтыфікатарамі прасторы й асобы, якая знаходзіць сябе ў гэтай культурніцкай прасторы. Калі цяпер вярнуцца да вашага пытаньня, дык я магу сьцьвердзіць, што з эфіёпскай ідэнтычнасьцю вы ўвесь час будзеце сутыкацца з "варожай" беларускай культурнай прасторай. Вы ўсе жыцьцё будзеце вымушаны даводзіць астатнім вашую небеларускую сутнасьць.

— Але ўсё ж такі паўстае пытаньне беларускасьці беларускай сытуацыі.

— Думаю, што гэта праблема завершанасьці альбо незавершанасьці працэсу самаідэнтыфікацыі, выразнасьці альбо нявыразнасьці беларускага суб'екту. Добра вядома, што беларуская ідэнтычнасьць доўгі час рэпрэсавалася. Беларусаў прывучылі, што "выторквацца" са сваёй ідэнтычнасьцю небясьпечна. Таму яны й прызвычаіліся хавацца, выкарыстоўваючы дзеля гэтага наступную формулу: увогуле, "я" — "ня я", ня вядаю, пра што ў мяне пытаецеся, я проста — "тутэйшы". Тутэйшасьць доўгі час як раз і была рэакцыяй на небясьпеку, рэакцыяй самазахаваньня праз хаваньне ці выцясьненьне, калі пакарыстацца фрэйдаўскім тэрмінам, сваёй уласнае ідэнтычнасьці.

Мэханізм такой рэакцыі дзейнічае прыкладна наступным чынам. Калі нейкі калянізатар заваёўвае прастору, ён перадусім імкнецца зьнішчыць суб'екта гэтае культурнае прасторы. Ён паўсюдна шукае яго, задаючы пытаньне: "ты хто?". Таму ў сытуацыі небясьпекі беларусы часам схільныя дзейнічаць паводле парадаксальнае формулы: "я хоць і ёсьць, але, дулю вам, — МЯНЕ НЯМА! Не такі дурань, каб адкруцілі мне башку". Як дзейнічае гэты мэханізм самазахаваньня й выцясьненьня нацыянальна-культурнай тоеснасьці апісаў Купала ў сваёй геніяльнай п'есе "Тутэйшыя". Спэцыяльна падкрэсьліваю слова "геніяльнай", бо ў нашай краіне, на жаль, ёсьць яшчэ ня так мала людзей, якія перакананыя ў тым, што беларусы акрамя дранікаў і піханай пальцам кілбасы нічога іншага ня маюць.

— Але ці не да выразнасьці беларускасьці імкнулася наша адраджэньне? Калі гэта так, чаму яно правалілася?

— Таму што замест стварэньня сыстэмы ідэнтыфікацыйных знакаў абмежавалася толькі моўнай праблемай. Адраджэньне як бы сталася філялягічным рухам. А філёлагаў і аматараў філялёгіі ў любым грамадзтве, як вядома, замала, каб стварыць нацыю.

— Якіх знакаў самаідэнтыфікацыі не хапіла?

— Не хапіла знакаў, якія б успрынялі тыя людзі, для якіх культура, мова — рэчы проста нейтральныя, фонавыя. Для такіх людзей, а насамрэч яны складаюць большасьць у любым грамадзтве, праблемаў мовы і культуры менавіта як праблемаў проста не існуе. Увогуле, паўставаньне нацыі — працэс нелінейны, не зьвязаны толькі з нейкай ідэалізацыяй, індактрынацыяй, так бы мовіць, шырокіх народных масаў. Узгадаем, што адраджэнцы, спрабуючы індактрыназаваць масы, даволі настойліва апелявалі да фэномену гэтак званага "сьвядомага ці шчырага беларуса", г. зн. апэлявалі толькі да ідэалягемных, вышэйшых рэчаў, а зусім не да сытуацыі, вызначанай рэальным індывідуальным існаваньнем зь ягонымі сацыяльнымі, сацыяльна-псыхалягічнымі, эканамічнымі й проста пабытавымі праблемамі.

— Чаму апазыцыя ня брала пад увагу рэальную эканамічную сытуацыю й рэальныя праблемы людзей?

— Апазыцыя разьлічвала ў хуткім часе прыйсьці да ўлады й тым самым вырашыць усе, у тым ліку й эканамічныя, праблемы. Гэтая падзея мусіла адбыцца на прэзыдэнцкіх выбарах 1994 года. Дастатковай падставай прыходу да ўлады лічылася ідэя незалежнасьці краіны, якую і ўвасабляла ў сабе апазыцыя. Што да выбарцаў, дык значная частка электарату якраз у незалежнасьці Беларусі — разбурэньні СССР (што на той час успрымалася ёй як адно і тое ж), бачыла прычыну пагаршэньня свайго эканамічнага стану. Увогуле, як цяпер відавочна, адраджэньне было перадусім рамантычным праектам, у якім выразна акрэсьлівалася толькі адно месца — месца палітычна-культурніцкай эліты; прычым, як гэта высьветлілася пазьней, пад элітай трэба было разумець толькі "сьвядомых альбо шчырых беларусаў". Беларускасьць ператварылася ў моцна спалітызаваную ідэалягему.

— А што тады ўяўляе з сябе нацыянальная ідэя?

— Сутнасна нацыянальную ідэю можна вызначыць як праект будучай нацыі й менавіта нацыі як дзяржавы. Нацыянальныя ідэі актуальныя менавіта ў пэрыяды паўставаньня нацыяў-дзяржаваў. Калі нацыя-дзяржава ўжо існуе, нацыянальная ідэя страчвае сваю актульнасьць. Сучасныя французы наўрад ці ведаюць — у чым іх нацыянальная ідэя. Немцы таксама ўжо даўно не рэфлексуюць на гэты конт. Нацыянальныя ідэі рэалізуюцца ў нацыянальных дзяржавах альбо проста ў факце дзяржаўнасьці той ці іншай нацыі. Для нашай сытуацыі нацыянальная ідэя мае значэньне толькі ў тым сэньсе, што перад намі сапраўды стаіць задача адбудовы заможнай, цывілізаванай і дэмакратычнай краіны. Іншага зьместу гэтая ідэя проста ня мае.

— Часам здаецца, большасьці нашага насельніцтва ўсё роўна, дзе жыць — у беларускай, расейска-беларускай дзяржаве ці ў Расейскай Фэдэрацыі.

Безумоўна, ёсьць людзі, якія кажуць: "усё роўна, дзе працаваць, абы плацілі грошы". "Усёроўнасьць" дзейнічае там, дзе няма сацыяльных пэрспэктываў, дзе няма канкурэнцыі й высокіх стандартаў жыцьця. "Усёроўнасьць" у дачыненьні да дзяржаўнасьці азначае, што нацыянальная супольнасьць (патэнцыйная нацыя) адмаўляецца ад права валодаць сваёй тэрыторыяй, сваімі нацыянальнымі багацьцямі й будаваць сваё жыцьцё паводле ўласных традыцыяў, уласнай палітычнай волі й разуменьня. Думаю, што такое адмаўленьне сьведчыць пра стан ненармальнасьці, пра стан "бамжовасьці" сьвядомасьці. Можна сказаць яшчэ прасьцей: нацыянальная дзяржава гэта — агульны дом для вялікай супольнасьці людзей. Людзям уласьціва мець свой дом. Гэта нармальна.

***************************************************

# Беларуская мова і мы

**У свеце, сцвярджаюць вучоныя, існуе 4200 моў, сярод іх толькі каля 500 моў належаць да развітых, вывучаных і даследаваных.**

У іх лік уваходзіць і беларуская мова. Але шмат хто з нас, беларусаў, шукае адказу на пытанне: "Чаму мы не карыстаемся роднай мовай у грамадскім асяроддзі?"

Мова — гэта адбітак душы, у ёй адлюстраваныя "рытмы духу і цела" (г.зн. тэмпераменту) народа. Здаецца, усё ў цябе, мой чытач, павінна быць добра: у грамадскім месцы ты карыстаешся рускай мовай, дома таксама. Аднак, чаму ты часта не можаш прымірыцца сам з сабою, чаму ў душы разлад? А можа гэта спадчыннасць душы, яе гены патрабуюць ад цябе не крыклівага, высакамернага рускага слова, а ціхага, ласкавага, свайго, прыхільнага беларускага? Шмат ведаю такіх прыкладаў, калі чалавек усё свядомае дарослае жыццё размаўляў па-руску, а ў сталым, шаноўным узросце, калі душа цягнулася да творчага мастацтва, пачынаў пісаць вершы па-беларуску. Так па-беларуску стварыў свае 300 вершаў-песень былы настаўнік Алесь Іванавіч Пасько, жыхар Слоніма, ураджэнец вёскі Баравікі.

Вось што пісаў пра беларусаў у 1918 годзе прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі, беларускі гісторык, абвінавачаны ў " нацдэмаўшчыне": "Беларусы — гэта, бадай, адзіны народ (мо толькі апрача палякаў), які з прадвечных часоў жыве ў сваёй староньцы, ніскуль сюды не прыходзіў, дык і не набраўся чужацкіх элементаў. З гэтай прычыны паводле сваіх гістарычных і этнаграфічных асаблівасцей беларусы — найбольш чыстае славянскае племя, захаваўшае і знешні выгляд славяніна, і шмат адзнак яго псіхікі і быту. Змагаючыся з беларускай культурай і яе прадстаўнікамі, расейскія ўлады — інстынктыўна ці мо і свядома — разумелі самабытнае значэнне гэтай культуры і баяліся яе." Значыць, нашым нацыянальным прыніжэннем мы абавязаны ўціску з боку "найдужэйшай на свеце дзяржавы". Але нават і ў гэтых умовах беларускі народ не страціў сваёй нацыянальнай самабытнасці, у той час як цэлыя народнасці і культуры проста зніклі за гады савецкай улады. Беларусы ж у часы сталінскіх рэпрэсій страцілі 3 млн. чалавек (вучоных, літаратараў, сялян). Так "памяркоўныя" беларусы расплачваліся за незалежнасць.

Сёння сябры Таварыства беларускай мовы збіраюць подпісы на тое, каб улады адкрылі на Беларусі Нацыянальны універсітэт, дзе вы-кладанне поўнасцю будзе весціся на беларускай мове.

Некалі граф Мураўёў падкрэсліваў, што трэба на Беларусі стварыць такія ўмовы, каб кожны беларус адчуў сябе на гэтай зямлі чужаземцам, а рускі так, быццам ён жыве ў Расіі. Купала пазней назаве свой край "забраным". Ці не тое самае адбываецца ў Рэспубліцы Беларусь зараз?

І гэта вымагае ад лепшых людзей краіны аб'яднаць свае намаганні ў адстойванні інтарэсаў беларускага народа. Калі дэмакратычныя каштоўнасці перамогуць, народ верне сваю душу — беларускую мову.

А зараз — размаўляйма ўсюды па-беларуску, і мова будзе жыць. А з ёю і мы.

**Таццяна ТРАФІМЧЫК, Слонім**

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Склад беларускай дэлегацыі ў Солт-Лейк-Сіты

БелаПАН

А. Лукашэнка зацвердзіў склад беларускай дэлегацыі на XIX зімовыя Алімпійскія гульні ў Солт-Лейк-Сіты.

У склад дэлегацыі ўвайшлі 138 чалавек, у тым ліку 61 спартсмэнаў. 10 з іх будуць прадстаўляць Беларусь у біятлоне, 5 – у фрыстайле, 2 – у фігурным катанні, 4 – у канькабежным спорце, 14 – у лыжных гонках, 23 – у хакеі, па 1 – у шорт-трэку, лыжным двухбор'і і скачках на лыжах з трампліну. Яшчэ 20 чалавек (14 хакеістаў, 3 біятланісты, па 1 фрыстайлісту, канькабежцу і лыжніку) залічаны ў рэзерв.

У Солт-Лейк-Сіты адпраўяцца таксама 35 трэнераў, 12 дактароў, масажыстаў і псіхолагаў, 15 прадстаўнікоў СМІ (7 з друкаваных выданняў і 8 з Беларускага тэлебачання), фундатары і спартыўныя чыноўнікі, у тым ліку віцэ-прэзідэнты НАК М.Ананьеў і А.Мядзведзь, генеральны сакратар НАК А.Іваноў. Кіраўніком беларускай дэлегацыі прызначаны міністр спорту і турызму Я.Ворсін, шэфам місіі — выканаўчы дырэктар НАК Я. Барычка.

Асобныя чальцы дэлегацыі адпраўяцца на Алімпіяду коштам «прыцягнутых сродкаў» (астатнія едуць за сродкі бюджэту і НАК). Гэта, у прыватнасці, кіраўнік Беларускага саюзу канькабежцаў І.Жалязоўскі, прэзідэнт федэрацыі фрыстайлу, рэктар Белдзяржуніверсітэту А.Казулін, артыст тэатру «Хрыстафор» А.Длускі.

=====================================

# Наступная станцыя

У нямецкіх кніжных крамах напярэдадні новага году з'явіліся кнігі, прысвечаныя Беларусі. Адна з іх, выдадзеная ў адным з дрэздэнскіх выдавецтваў, мае напалову беларускую, напалову нямецкую назву. Нямецкія словы так перакладаюцца на тытульнай староньцы: "Станцыі беларускіх сустрэч". Аўтар гэтай кнігі пісьменніца і журналістка Х. Забэль. Яна расказвае, што некаторы час жыла ў Мінску, але не ў нямецкім адукацыйным цэнтры, а ў звычайным блочным доме ў мікрараёне Малінаўка. Адсюль і беларуская назва кнігі "Наступная станцыя", бо так аб'яўляюць у мінскім метро. Пісьменніца хадзіла ў крамы, ездзіла ў грамадскім транспарце. Адзін з нарысаў Х. Забэль прысвечаны станцыі "Няміга" і той трагедыі, што там адбылася. Героі другіх нарысаў — звычайныя людзі, сярод іх лекар, мастак, вулічныя гандляры газетамі, студэнты. Погляд на нашу рэчаіснасць у аўтара тыпова нямецкі. Гэта ўжо другая кніга пісьменніцы пра Беларусь.

Яшчэ дзве кнігі пра нашу краіну выйшлі ў мюнхенскім выдавецтве. Брыгіта Ром, адна з аўтараў кнігі "Крык жураўля", паехала ў Беларусь каб знайсці магілу свайго дзядзькі. У перыяд другой сусветнай вайны ён загінуў на поўдні Беларусі. Аўтара ўразіў той факт, што беларусы не захавалі нянавісці да немцаў. Кніга Пятра Рабцэвіча "Паўсталыя з попелу" прысвечана габрэям, якія засталіся жыць пасля пінскага гета.

Кнігі багата ілюстраваны. Яны яшчэ раз напамінаюць немцам пра не самыя прыемныя для іх старонкі нядаўняй гісторыі.

=====================================

**Васіль ГРОДНІКАЎ** (Н.Воля)

## Развітанне з вёскай Мазалямі, або Што ж на самай справе ўяўляе сабой надзейная апора дзяржавы -- сучасная вёска?..

...Сёння селянін жыве на гэтай грэшнай зямлі і радуецца таму, што ёсць: цяпер і не робіш у калгасе, а грошы плацяць. Некаторым да гэтага часу няўцям, што пенсіі імі даўно заробленыя ранейшай сваёй працай, і гэта не дармаўшчына якая-небудзь і не шчодры падарунак ад прэзідэнта за тое, што яны за яго аднадушна галасавалі. Мне падаецца, што такое разуменне з'яўляецца яшчэ адным, новым, звяном у ланцужку абыякавых адносін селяніна не толькі да калгаснай, але і да сваёй, неабходнай на ўласнай гаспадарцы працы...

Трэба праўду сказаць, дзяржава па-ранейшаму крыху падтрымлівае мінімальную жыццядзейнасць сённяшняй вёскі: аўталаўка прывозіць сюды некаторыя прадукты харчавання. Перад пенсіяй і пасля яе па вёсках снуюць, сігналячы, як пры пажары, "рафікі" і фуры з розным дабром -- камбікормам, вальцаванай мукой, цукрам, алеем і г.д. Гэта мясцовыя прадпрымальнікі дапамагаюць дзяржаве падтрымліваць той мінімум гандлёвых паслуг, які яна не ў стане нармальна забяспечыць.

Прыватныя гандляры часам даюць тавар напавер, збаўляючы цану. Пасля, як у людзей завядуцца грошы (пасля палучкі, пенсіі), яны прыносяць аплату. У пенсійную пару "сшываюць" двары і цыганы, быццам тыя карабейнікі, з поўнымі бауламі ўсялякага таннага заморскага тавару, выдаючы яго за даўганоскае і дэфіцытнае, надзвычай моднае і шыкоўнае.

Праўда, часам даходзіць і да нахабнага ашуканства. Летась, напрыклад, якраз ранняй вясной цыганы прывезлі ў вёску прадаваць куранят. Ды так танна, што нашы накінуліся, як тараканы на свежы хлеб: хто па дзесяць браў, хто па дваццаць, хто сабе і радні аж па тры дзесяткі... Падраслі к лету куранияты і ўсе, як адзін, аказаліся не курачкамі, а... пеўнікамі. Быў смех са слязамі на вачах. Гэта ж трэба такое: вясковых, як тых вераб'ёў на мякіне, надурылі!

Сёлета мне трэба было скасіць і вывезці ўжо высушаную "амерыканку" (у некаторых мясцінах гэтую дзікую траву яшчэ называюць "курвінкай") з пятнаццаці сотак. За дзесяць тысяч рублёў ледзь знайшоў ахвотніка зрабіць гэтую работу. Прыйшлося пагадзіцца і на "стымулюючыя" -- наліць, даліць, пахмяліць. А потым узараць ды пасеяць на тым месцы цімафееўку зноў жа за дзесяць тысяч са "стымуламі". Лічы -- паўмесячная зарплата калгасніка толькі за адзін рабочы дзень.

Да таго ж, дзе гэта вы бачылі, каб мужыку на калгаснай, скажам, рабоце брыгадзір наліваў, даліваў, пахмяляў ды яшчэ з дому закуску прыносіў? А не пагодзішся на ягоныя ўмовы, -- сыдзе са двара, зойдзе на "кропку", возьме напавер бутэльку самагонкі, апаражніць яе і праспіць цэлы дзень, які, калі б на добры толк, мог прынесці яму дваццаць тысяч рублёў. Праўда, грошы не надта якія, але ж пры цяперашніх зарплатах калгасніка -- значны капітал. І сёння -- на сёння. Такія заробкі на вёсцы ад выпадку да выпадку. Але кожны "хаўтуршчык" свой гонар мае! Выйдзе так, як ён сказаў, бо не яму трэба, а табе -- спешна, да зарэзу...

Уважліва прыгледзьцеся да сённяшняга мужыка: хто ён зараз, калі браць па вялікім рахунку? Мужык можа цярпець, мірыцца з тым, што яшчэ цярпіма. Але пры выпадку рызыкаваць не стане. Прапануй, скажам, яму рай і пекла -- ён абавязкова выбера пекла. Таму што ён звыкся з ім. Тут ён як рыба ў вадзе. А рай можа аказацца зусім і не раем, а, як раней гаварылі, агітпунктам у яшчэ больш небяспечнае пекла -- смалакурню. У апошні час ён столькі наслухаўся прывабных абяцанняў, што адзінае, каму ён верыць, -- гэта самому сабе, налітаму пад самы кадычок самагонкай.

Тады ён смелы, можа (на сваім падворку) аблаяць уладу і ўладароў, рэжым, камень на камні не пакіне ад лукашэнкаўскай сістэмы! А праспіцца -- страх зноў авалодае ім. Як сцвярджаў рымскі філосаф Сенека яшчэ на зары новай эры, хто баіцца -- той раб! Сёння страх перад рэжымам эпідэміяй распаўсюдзіўся па Беларусі, асабліва ў вёсцы. Хто з нармальных людзей можа сцвярджаць, што вёска, яе жыхары сёння з'яўляюцца надзейнай апорай дзяржавы ў сельскай мясцовасці?

У вёсцы з першых дзён я адчуў сябе асобай, да якой пільная ўвага і кантроль з боку ўлады і людзей. Папершае, я -- гараджанін. А значыць для іх я -- чужынец, прыблуда. Па-другое -- гараджанін, якому выдзелілі аж 25 сотак зямлі. Для чаго яму было цікава, а ці здолее ён абрабляць яе па-людску. Ага, гляндзі-тка, хату за двачы гады аднавіў на папялішчы сваімі рукамі. Адначасова з будаўніцтвам вядзе гаспадарку: трымае парсюкоў, коз, статак курэй. І ўсё гэта -- адзін?! І праз нейкі час мясцовыя перасталі мяне называць дачнікам...

А вось для дзяржавы па шмат якіх прычынах я аказаўся тут сапраўды чужынцам, непажаданай асобай. І не адзін такі я. Да ўсіх дачнікаў адносіны, прама скажу, варожыя. І гэта, нягледзячы на тое, што нязручнасці для гараджаніна тут на кожным кроку. Вада -- не з-пад крана, а са студні. Абаграванне -- пячное, трэба вагон дроў. Лазні -- у Чысьці, Красным, Маладзечне, а ванна -- у Мінску. Замест магазіна -- два разы на тыдзень аўталаўка. За ліверкай, селядцом, кавалачкам свініны трэба ехаць у горад. У бібліятэку, тэатр -- ці ў Маладзечна, ці ў сталіцу. У кінатэатры -- не памятаю, калі быў апошні раз. Хаджу тут, як і ўсе: ў кірзавых або гумовых ботах і тыднямі не галюся.

Пасля горада і гарадскіх выгод -- сумна, трывожна, адзінока, крыўдна. І прывыкнуць да ўсяго гэтага не кожны здолее. І за ўсё яшчэ трэба плаціць падаткі і зборы па завышаных цэнах. За электрычнасць, напрыклад, я плачу па-гарадскому, быццам тут няма ніякіх адключэнняў і з-за гэтага не плыве з-пад халадзільніка, не псуюцца прадукты, не выключаецца радыёпрыёмнік і тэлевізар, не запальваюцца свечкі і газнічкі; што мая электрычнасць больш якасная, чым у суседа. Дадатковы балон газу (а дачніку даюць па нармальным кошце толькі адзін балон на год) прадаецца па камерцыйнай цане ў тры-чатыры разы даражэй. І падаткі ў гараджаніна зусім іншыя і большыя. За нерухомасць, за зямлю. А прычына такой несправядлівасці -- прапіска. Яшчэ да гэтага часу не адменены прынцып прыгоннага права. І яшчэ апаска: калі тут што-небудзь не так, то гарадскія маўчаць не будуць. А мужык сцерпіць...

На мяне тут, у Мазалях, шмат якія глядзелі і нават цяпер глядзяць падазрона, са здзіўленнем. Здаецца, культурны, інтэлігентны і адукаваны мужчына, да таго ж -- журналіст, а нешта прыкіпеў да іх Мазалёў, быццам яны мёдам намазаныя. Спачатку меркавалі, што ад міліцыі хаваюся, ад жонкі збег або яна яго выгнала. Іншыя -- што ў мяне з галавой нешта не ў парадку, а можа, захацеў на 25-і сотках "размяцца" і скінуць крыху жывоцік. У шмат каго загадка так і засталася загадкай па сённяшні дзень...

Хто тут нарадзіўся і далей Маладзечна не адлучаўся, таму, можа, і добра тут, і звыкла. І жытка -- не тое, што пры паляках ці пры немцах або першых бальшавіках. І не так кепска, як было адразу пасля вайны. Ёсць за што купіць хлеб, крупы, камбікорм. А калі выпіць захочацца (а тутэйшым мужыкам і бабам хочацца вельмі часта), ці на "кропку" збегаеш, ці свая на агародзе схаваная. Конаўку схаванай вып'еш -- конаўку вады дальеш. Жонка здагадаецца -- вочы на лоб. А гаспадар ёй даводзіць: не хавай ад мужа, гэта вялікі грэх! Маўляў, тваё зелле зямля высмактала. Яна з каго хочаш сокі вып'е...

Вось так і жывуць. Усё, пэўне, залежыць ад таго, хто і як разумее сэнс і прызначэнне такога жыцця. Я пабачыў, дзякуй Богу, свету і на Усход, і на Захад ад Мазалёў на тысячы кіламетраў і па-свойму разумею іх лад і сэнс жыцця, самога існавання. Выпіць ды з'есці (яда і пойла) -- гэта для быдла. Для чалавека трэба нешта большае, высокае і духоўнае. А быць рады таму, што ўдалося паснедаць бульбай з кіслым малаком, і за гэта дзякаваць Богу за "хлеб наш насущный" -- на мой погляд, прыніжэнне сябе як чалавечай істоты... Чалавек здольны на большае! Значна большае!!!

Ціха ў вёсцы. Толькі з рэпрадуктараў па-ранейшаму пахне гноем, з блакітнага экрана БТ -- прэлым сіласам напалам з самагонным перагарам, а на ўсю хату -- дзяржаўнай хлуснёй пра рост дабрабыту народа, як чадным водарам.

Ды толькі не дужа налягаюць на тыя навіны вяскоўцы. Менш ведаеш -- спакайней пражывеш. Здаецца, яны ўжо нават не звяртаюць увагі і на няспынны рост цэн, малыя заробкі і пенсіі, інфляцыю, уласнае збяднене. Пэўне, усё гэта яшчэ не кранула селяніна за жывое. Праўда, часам закрадваецца думка: а ці засталося штосьці жывое ў селяніна? Што можа вывесці яго з такой абыякавай раўнавагі?

Ну, напрыклад, хто і як правіць там, наверсе, то што яму да таго? Лукашэнка ці Ганчарык -- па вялікім рахунку яму -- адзін хрэн. Праўда, мяркуючы, многія, Лукашэнку яны хоць ведаюць. Праўда ці не, а ўсё гавораць, што стараецца для людзей, асабліва сялян. А хто такі Ганчарык? І што ад яго чакаць, калі б яго выбралі? Усе яны перад выбарамі такія добранькія, такія мяккенькія, хоць да раны прыкладвай. А ўзлезе на трон, выне рукі з кішэні, а там вялікі кукіш. Не, няхай сабе будзе Лукашэнка, гавораць паміж сабой мае землякі.

У апошнія гады пачалі выратоўваць калгасы хто б вы думалі? Бежанцы! Тыя, хто не ўжыўся ў Літве, Латвіі, на Украіне, у Казахстане... І тыя, што ратаваліся ад радыяцыі, -- жыхары Гомельскай і Магілёўскай абласцей. У Мазалях іх пасялілася чалавек трыццаць, а сёння працуе ў калгасе можа чацвёртая частка.

І зноў, як калісь мясцовыя бацькі, "бежанцы" стараюцца сваіх дзяцей пры першай жа магчымасці ўладкаваць каго ў ПТВ, каго аддаць замуж за гарадскіх кавалераў, каго -- прымаком у якое-небудзь мястэчка, каго -- на платныя аддзяленні навучальных устаноў у Маладзечна, Мінск, іншыя гарады. Куды заўгодна, толькі далей ад гэтага "гіблага месца", каб роднае дзіцятка не хадзіла ў рыззі, не смярдзела гноем і сіласам, не спілося, як усе наўкола. Няхай сабе асядзе дзе-небудзь і ў вёсцы, але пры шашы, пры электрычных, у доме з цэнтральным ацяпленнем, з гарачай і халоднай вадой, з туалетам і ваннай у цёплым месцы.

Пройдзе колькі часу і бацькі-бежанцы пастарэюць, пойдуць на пенсію, а затым паедуць і на пагорак. Хто прыйдзе на іх месца? А недзе ў перспектыве, пашыраючы ўрадлівыя палеткі, зруйнуюць пустыя і гнілыя мазалёўскія хаты з зямлёй. Толькі на якойнебудзь карце севазваротаў наша мясціна будзе называцца або ўрочышчам, або мызай, таму што ўпіраецца ў балота.

...Гады спешна забіраюць сваё. Рубікон даўно пяройдзены, і шлях гладка ляжыць з гары ў даліну. У такую пару ўзрастаюць патрэбы ў дактарах, надзейных сябрах і трывожаць думкі пра маладзейшых родных і блізкіх людзей...

Хоць і развітваюся я сёння з Мазалямі, але ж чуе мая душа, што без вёскі, без драўлянай хаткі на вясковай зямлі я магу заўчасна завянуць у гэтым шматлюдным і чадным горадзе, пазбавіўшыся апошняй артэрыі, што надае майму жыццю асаблівы сэнс...

Гады і здароўе патрабуюць мясціны бліжэй да Мінска, дзе-небудзь на ўскрайку лесу, адкуль будзе чуваць шум электрычкі, -- ніточкі маёй сувязі з горадам. Адна спадзёўка на маіх дарагіх чытачоў: можа, напіша хто мне ў газету пра такое месца, якое, упэўнены, магло б стаць мілым і дарагім майму сэрцу...

==========================================

## Бумэранг

**Алена Арэшка** (Р. Р.)

Савецкая ўлада ад самага пачатку свайго існаваньня абапіралася на неэфэктыўную эканамічную сыстэму. Нават калі гэтая сыстэма выйшла за межы адной краіны, яна нідзе не спраўдзілася й добра не працавала. Вось чаму камуністам патрэбная была, як паветра, рэпрэсіўная машына, якая, па-першае, магла б утрымаць "на плаву" савецкую гаспадарку, пастаўляючы для яе дармовую рабсілу, па-другое, зьнішчаць або застрашваць людзей, якім, натуральна, не падабалася гэтае сучаснае нявольніцтва. Страх у Савецкім Саюзе насамрэч стаў вельмі дзейным сродкам для падтрымкі "лягернай імпэрыі", а з цягам часу падмяніў сабою нават маральнасць - асабістую й грамадзянскую. Але рэпрэсіўная сыстэма, апроч гэтых функцыяў, мела яшчэ адну - і вельмі важную: з прычыны таго, што ў Савецкім Саюзе ва ўсіх сфэрах панавалі абсурд і бязглуздзіца, то - каб знайсьці апраўданьне для тых, хто знаходзіўся "зьверху", і зьняць зь іх адказнасьць, - патрэбны былі вінаватыя. Чым горшаю рабілася эканамічная становішча краіны, тым маштабнейшымі станавіліся пошукі ворагаў Савецкае ўлады. Гэткім чынам, "пошукі вінаватых" надоўга сталі ўлюбёнай "гульнёй" савецкіх уладаў, і паступова ўвайшлі ў мэнталітэт звычайнага савецкага чалавека. Да сёньня гэтым карыстаюцца - і даволі вынікова - у нашай краіне.

Недзе з канца 1920-х гг., калі разгортваюцца індустрыялізацыя й калектывізацыя, што прыводзіла да дэфіцыту й голаду ды выклікалі антысавецкія настроі, НКВД пачынае актыўна фабрыкаваць фантомныя антысавецкія арганізацыі, у шэрагі якіх нібыта ўваходзілі сотні, а часам і тысячы "ворагаў народу". Фашысцкія, нацыяналістычныя, паўстанцкія, дывэрсійныя, шпіёнскія і да т. п. арганізацыі "расьлі" як грыбы, але, пасьля "Российского общевоинского союза" ды "Союза спасения России", самай "разгалінаванай" і масавай хіба была створаная "фантазёрамі" з НКВД "Польская арганізацыя вайсковая".

11 жніўня 1937 г. НКВД СССР у цыркуляры №59098 абвесьціў усе свае аддзелы, што ім выкрыта й ліквідуецца буйная дывэрсійна-шпіёнская сетка польскай выведкі ў СССР, якая існавала ў выглядзе "Польскай арганізацыі вайсковай" - скарочана ПАВ. Стварыўся ПАВ для змагання з саветамі нібыта яшчэ самім Пілсудзкім, і з году ў год сыстэматычна закідаў у СССР пад выглядам перабежчыкаў, палітэмігрантаў, палітзьняволеных (па абмене на арыштаваных НКВД быццам бы "польскіх агентаў") - шматлікія шпіёнскадывэрсійныя кадры, якія потым вэрбавалі ў сваю арганізацыю савецкае насельніцтва. Злачынныя мэты свайго прыбыцця ў СССР перабежчыкі заўсёды хавалі: казалі, што яны быццам бы ўцякаюць ад паліцэйскага перасьледу як камуністы або жадаюць узьяднацца з роднымі й г. д.

Арганізацыя быццам бы кіравалася з Масквы, але мела "моцныя філіі" ў Беларусі й на Украіне. Паводле аўтараў цыркуляра, арганізацыя "Польская арганізацыя вайсковая" ўкараніла сваю агентуру ва ўсе структуры НКВД, Чырвонай Арміі, Разведупру арміі, у апарат Камінтэрну, Наркамат замежных справаў, абаронную прамысловасьць, транспарт і сельскую гаспадарку. У цыркуляры падрабязна апісваліся дэталі злачыннай дзейнасьці ПАВ. Менавіта ўдзельнікі ПАВ, якія даўно

захапілі кіраўнічыя пасады, пры распрацоўцы плянаў капітальнага будаўніцтва ў СССР нібыта наўмысна "распылялі" сродкі па шматлікіх аб'ектах і не забясьпечвалі патрэбнымі сродкамі найважнейшыя будоўлі, заахвочвалі практыку беспраектнага будаўніцтва, зрывалі будоўлю й рэканструкцыю заводаў, наўмысна будавалі іх памылкова. Гэткім чынам, вельмі часта прадпрыемствы, якія займаліся вытворчасьцю дэталяў камплектацыі, знаходзіліся адзін ад аднаго на адлегласьці некалькі тысячаў кілямэтраў.

Уяўным "польскім шпіёнам" інкрымінавалі й такія "жахлівыя злачынствы" як затрымліваньне пабудовы караблёў і падводных лодак для савецкага флёту. У падлодцы "Малютка", падае цыркуляр, сябры ПАВ пашкодніцку павялічылі габарыты, што не дало магчымасьці перавезьці яе па чугунцы. Яны таксама перашкодзілі будаўніцтву сэрыйных эсьмінцаў. А на крэйсэрах зэнітную артылерыю разьмясьцілі так, што яна не магла адначасова й уся разам быць уведзеная ў бой. "Польская арганізацыя вайсковая" нібыта рыхтавала таксама й тэракты. Зьбіралася вывесьці з эксплюатацыі шмат буйных заводаў, а ў Менску ў 1936 г. наважвалася забіць Варашылава.

У Беларусі "Польская арганізацыя вайсковая" ўсталявала "арганічныя сувязі з арганізацыяй беларускіх нацыянал-фашыстаў, трацкісцкім падпольлем і антысавецкай правай арганізацыяй, у выніку чаго была створаная адзіная антысавецкая змова на чале з Чарвяковым, Галадзедам і Бэнэкам". Нібыта гэтае падпольле паступова ахапіла ўсе галіны народнай гаспадаркі Беларусі: транспарт, плянаваньне, паліўна-энэргітычную гаспадарку, будоўлю новых прадпрыемстваў, усю лёгкую прамысловасьць і сельскую гаспадарку.

Гэтае падпольле "шляхам штучнага распаўсюду інфэкцыйных захворваньняў правяло вялікую працу па зьнішчэньні пагалоўя быдла, конскага пагалоўя ў Беларусі, у выніку чаго толькі ў 1936 г. у БССР было зьнішчана звыш 30 тыс. коней". Змоўцы таксама спрабавалі асушыць палескія балоты, якія, згодна з цыркулярам, зьяўляліся натуральнай перашкодай супраць наступальных дзеяньняў польскага войска, а таксама хацелі прарыць глыбакаводны канал для праходу польскіх ваенных караблёў на савецкую тэрыторыю. Асабліва шмат яны займаліся "штучным узбуджэньнем незадавальненьня насельніцтва супраць савецкай улады" падчас правядзеньня розных кампаніяў савецкай улады, у тым ліку падчас канфіскацыяў маёмасьці ў кулакоў, збору падаткаў ды г. д.

Чэкісцкі цыркуляр пра "Польскую арганізацыю вайсковую" чытаецца як нясмачны чорны гумар, але ж трэба разумець, што за абсурднымі фразамі стаяць лёсы тысячаў нашых суайчыньнікаў, якія, раскіданыя па ўсім Савецкім Саюзе, мелі няшчасьце насіць падазронае прозьвішча ці былі "няправільнага" паходжаньня. Па гэтай арганізацыі праводзіліся гэтак званыя "лінейныя арышты", калі людзей хапалі агулам толькі на падставе нацыянальнай прыналежнасьці. Асабліва вялікую колькасьць людзей арыштавалі на Ўрале й у Сібіры - там было шмат "царскіх" перасяленцаў зь Беларусі, былых бежанцаў ды тых, каго арыштоўвалі й высылалі яшчэ з пачатку 1920-х гг. Гэтак у 1937 г. у Заходняй Сібіры па справе "Сібірскага камітэту ПАВ" разам былі арыштаваныя Лаўрыновіч, Меляшкевіч, Дацкевіч, Бобрык, Сіняўскі, Шустоўскі, Рамашка ды іншыя - людзі рознага сацыяльнага паходжаньня, з зусім розных мясцінаў, якія часам ня ведалі адзін аднаго, але мелі "адпаведныя" прозьвішчы й таму аўтаматычна пераводзіліся ў "ворагаў народу".

У шэрагі фантомнага ПАВу трапілі таксама тыя беларусы, якія ўцякалі ў 1930-я гг. з Заходняй Беларусі ў "савецкі рай" і кваліфікаваліся як перабежчыкі-шпіёны. Гэтак здарылася й са Сьцяпанам Валовічам са Старога Сьвержня, што пад Стоўбцамі, які ўступіў у камуністычную групоўку, разьвешваў 1-га траўня чырвоныя сьцяжкі на вуліцах, раскідваў савецкія прапагандысцкія ўлёткі й марыў, прыляпіўшыся да радыёпрымача, пра шчасьлівае жыцьцё у Савецкай Беларусі. У жніўні 1937 г. Сьцяпан перайшоў польска-савецкую мяжу, без праблемаў дайшоў да савецкага памежнага пункту, дзе яго й арыштавалі. Спачатку трымалі ў турме ў Дзяржынску, дзе вадзілі кожную ноч на допыты, а сьледчы біў да непрытомнасьці. А калі нарэшце Сьцяпан ня вытрымаў і "прызнаўся", што ён польскі шпіён, дык суд даў яму 10 год лягероў, а пасьля адбыцьця пакараньня - высылку ў Краснаярскі край. Але Сьцяпану Валовічу ўсё ж такі пашчасьціла: і тэрмін быў ня самы вялікі, і найвышэйшую меру пакараньня не атрымаў і вярнуўся ў 1956 г. на Радзіму. А тысячы іншых "польскіх шпіёнаў" зь беларускімі прозьвішчамі так і засталіся ляжаць у агульных пахаваньнях на бяскрайніх прасторах лягернай імпэрыі. Пра іх думаю я, калі чарговы раз чую стандартныя развагі: нельга, маўляў, кідацца ў крайнасьць і шукаць у нашым мінулым толькі кепскае...



# ЭЎРОПА І АПОШНІ З САВЕЦКІХ МАГІКАНАЎ

Ганс-Георг Вік Tagesspiegel

*Ганс-Георг Вік чатыры гады ачольваў місію АБСЭ ў Менску; ейнай мэтай было развіцьцё грамадзянскай супольнасьці, дэмакратыі й плюралізму. Да канца 2001 году ён быў вымушаны пакінуць краіну. Сёньня рада АБСЭ ў Вене абмяркоўвае будучыню назіральнае групы; ейны мандат не абмежаваны па часе. З дапамогаю маніпуляцыяў вакол рэферэндуму па асноўным законе прэзыдэнт Лукашэнка разьвітаўся з дэмакратычнай канстытуцыяй, што была прынятая ў 1994 годзе. У прамыслова разьвітай краіне зь дзесяцьцю мільёнамі жыхароў ён усталяваў аўтарытарны рэжым, як гэта было пры камуністычнай партыі ў часы Савецкага Саюзу: кантроль прэзыдэнта й ягонай адміністрацыі за заканадаўчай і судовай уладаю; бюджэт не падлягае кантролю з боку парлямэнту і нават не публікуецца. Абраны парлямэнт заменены прызначаным, а ягоныя паўнамоцтвы моцна скарочаныя, усталяваная манаполія дзяржавы на электронныя й дзяржаўныя друкаваныя СМІ. Асноўныя прадпрыемствы засталіся ў дзяржаўнай уласнасьці і пад дзяржаўным кантролем; мясцовае самакіраваньне замяніла вертыкальная сыстэма кіраваньня.*

Расейскай Федэрацыя пагадзілася з ударам, нанесеным па беларускай канстытуцыі; да сёньняшняга дня яна падтрымлівае сыстэму Лукашэнкі, нягледзячы на пэрыядычную напружанасьць у адносінах: ільготныя кошты на прыродны газ і нафту, а таксама набыцьцё беларускіх тавараў, нават калі яны неканкурэнтназдольныя. Цесна супрацоўнічаюць спэцслужбы, узброеныя сілы, цэнтральныя банкі, а таксама прадпрыемствы ваенна-прамысловага комплексу дзьвюх краінаў.

Асноўныя прадстаўнікі апазыцыі падвяргаюцца крымінальнаму перасьледу; некаторыя зьніклі. Ёсьць падставы меркаваць, што да гэтага датычныя дзяржаўныя структуры. Зьнічтажэньне дэмакратычных структураў выклікала вострую крытыку ў Эўропе: Беларусь страціла статус назіральніка на Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы; Парлямэнцкая асамблея АБСЭ ў 1995-96 годзе пацьвердзіла правамоцнасьць дэмакратычна абранага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, які разагнаў Лукашэнка; Парлямэнцкая асамблея лічыць, што толькі гэты парлямэнт мае права прадстаўляць інтарэсы Беларусі ў АБСЭ.

Пасьля няўдалай спробы пасярэдніцтва з боку Эўразьвязу і Рады Эўропы ў 1997 годзе АБСЭ вырашыла са згоды менскага ўраду сфармаваць кансультатыўную й назіральную групу ў Беларусі. Група, абароненая дыпляматычным статусам, павінна падтрымліваць разьвіцьцё дэмакратычных установаў і сачыць за захаваньнем абавязацельстваў краіны перад АБСЭ. Ейны мандат не абмежаваны па часе.

За маю 4-гадовую дзейнасьць у якасьці кіраўніка гэтай групы – разам з чатырма іншымі ўдзельнікамі міжнароднай місіі – я вёў з урадам перамовы аб першачарговых кроках на шляху дэмакратызацыі, а таксама прымаў удзел у непасрэдных перамовах аб дэмакратызацыі паміж урадам і апазыцыяй, патрабаваў спыненьня перасьледу палітычных апанентаў і прымяненьня да іх мераў, прадугледжаных крымінальным і адміністратыўным кодэксам.

Мае спробы – у тым ліку ў цяжкіх умовах дзяржаўнага панаваньня — былі накіраваныя на дапамогу палітычным партыям, няўрадавым праваабарончым арганізацыям, прафсаюзам, моладзевым і жаночым арганізацыям. Нашай мэтай было разьвіцьцё структур, якія могуць паўплываць на фармаваньне грамадзкае думкі ў краіне і ўтвараць кааліцыю як для перамоваў з урадам, так і для ўдзелу ў выбарах. Без такой падтрымкі палітычныя й сацыяльныя групы грамадзянскай супольнасьці не маглі адыгрываць актыўную ролю ў разьвіцьці дэмакратычнай альтэрнатывы апарату аўтарытарнай улады. Мы імкнуліся да таго, каб яны навучыліся аказваць палітычны ўплыў на ўрад, як гэта адбываецца ў краінах з разьвітай дэмакратыяй.

Шлях да дэмакратыі ляжыць праз умацаваньне грамадзянскай супольнасьці, ягоных палітычных структур і прысутнасьць незалежных назіральнікаў на выбарах; да гэтай ролі былі гатовыя тысячы дабраахвотнікаў. Агульнаэўрапейскія арганізацыі ацанілі іхныя намаганьні і падвялі вынікі верасьнёўскіх выбараў. Гэты посьпех не павінен прапасьці.

Беларусь этнаграфічна знаходзіцца ў цэнтры Эўропы, але палітычна знаходзіцца на краі кантынэнту. Краіна і ейны народ заслугоўваюць лепшай долі. Яны павінны палітычна, эканамічна й культурна належыць цэнтру Эўропы і прымаць паўнавартасны ўдзел у дэмакратычным працэсе. З сёньняшнім рэжымам Лукашэнкі гэта немагчыма.

# Ён -- наш гонар і наш боль

**На 110-я угодкі народзінаў Браніслава Тарашкевіча**

Да юбілею выбітнага вучонага, грамадскага і палітычнага дзеяча, мовазнаўца, літаратуразнаўца і перакладчыка Таварыства беларускай мовы падрыхтавала адмысловы кішэнны каляндарык (дызайн Ігара Марачкіна) на 2002 год з вывявай рэдкага здымка юбіляра на фоне касцёла Святой Ганны ў Вільні, аўтографа і вокладкі "Беларускай граматыкі для школ", аўтарам якой з'яўляецца Тарашкевіч. Выдатная сына зямлі беларускай напаткаў пакручасты трагічны лёс. У 1937 годзе ён быў арыштаваны па беспадстаўным абвінавачанні ў "шпіёнскай дзейнасці", а 29 лістапада 1938-га расстраляны. Знаўцы ягонага жыцця і творчага шляху, сябры ТБМ Арсень Ліс, Адам Мальдзіс, Уладзімір Міхнюк, Віталь Скалабан, Ніл Гілевіч, Уладзімір Содаль возьмуць удзел у імпрэзе, якая адбудзецца ў сталічным кінатэатры "Змена" якраз у дзень народзінаў Тарашкевіча. Яны распавядуць пра лёс і подзвіг гэтай велічнай для Беларусі постаці. Іх аповед дапоўняць дакументальныя стужкі рэжысёра Юрыя Лысятава "Радашковіцкія ростані", "Дзядзька Уласаў", "Зямля Тарашкевіча".

...Ягоная зямная сцяжынка абарвалася ўсяго на 46-м годзе жыцця, але ён паспеў зрабіць многае на карысць Бацькаўшчыны. Народжаны ў засценку Міцюлішкі, што пазней апынуліся пад Літвой, ён, адзіны з вялікай сям'і, выйшаў у вялікі свет. Тарашкевіч меў незвычайныя здольнасці. Яму, студэнту 3-га курса Петраградскага універсітэта, Янка Купала ад імя Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні прапанаваў стварыць граматыку беларускай мовы. Праз два гады па заканчэнні універсітэта "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча ўбачыла свет. Яна была надрукаваная кірыліцай і лацінкай у знакамітай друкарні Марціна Кухты. У ёй упершыню вызначаны нормы сучаснай беларускай мовы, якія сталі грунтам для далейшай распрацоўкі і ўдасканалення літаратурнай мовы.

За абарону правоў беларусаў і палітычную дзейнасць ён зведаў пакуты зняволення. Але зламаць мужнага чалавека не ўдавалася. У турэмных засценках ён перапрацаваў "Беларускую граматыку для школ", пераклаў на беларускую мову "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча, працаваў над гістарычнай граматыкай беларускай мовы, стварыў тэкст "Марша Грамады", пісаў улёткі і брашуры, у якіх заклікаў працоўных Заходняй Беларусі да барацьбы.

Мы ведаем Браніслава Тарашкевіча як аднаго з заснавальнікаў і кіраўнікоў Таварыства беларускай школы, аднаго з лідэраў Беларускай сялянска-рабочай грамады, дырэктара Віленскай беларускай гімназіі. Куды б ні закідваў яго лёс, ён заўсёды заставаўся адданым сынам свайго народа. Браніслаў Тарашкевіч -- наш гонар і боль.

Ірына ЛЯКСЕЕВА. (Н. В.)

# Найлепшы ў Польшчы

БелаПАН

Адным з найлепшых у Польшчы прызнаны Бельскі агульнаадукацыйны ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча, у якім вывучаецца беларуская мова.

Як паведаміла БелаПАНу дырэктарка ліцэю Зінаіда Навіцкая, у штогадовым конкурсе, які праводзіць польская арганізацыя «Перспектывы» сумесна з газетай *Rzeczpospolita*, узялі ўдзел каля 400 агульнаадукацыйных школ з усёй краіны. Восьмае месца ў краіне і першае ў Падляскім ваяводстве атрымаў Бельскі ліцэй, які ў нацыянальным рэйтынгу 2000 году быў толькі 23-м.

Такі рост прэстыжнасці навучальнай установы стаў магчымы дзякуючы поспехам бельскіх ліцэістаў, сямёра з якіх перамаглі ў прадметных агульнапольскіх алімпіядах, а дзесяць сталі іх фіналістамі. Паводле словаў сп. Навіцкай, рост прэстыжнасці ліцэю будзе спрыяць прытоку навучэнцаў.

Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ, Кліўленд, ЗША.

# ЗОРКА З-ЗА АКІЯНУ

"Існуе шмат зорак на небасхіле. Сьвет адных ня вельмі яскравы і ня шмат прыкметны, а сьвет іншых — такі прыгожы, сьветлы. Ён, нібы залатая птушка; ён адлюстроўвaецца ва ўсім навакольлі, ён ярчэй за самую сьветлую зорку — Сонца, бо льецца ад самой душы, ад сэрца. І менавіта такія зоркі патрабуюць ад сябе шмат сілы, каб асьвяціць людзям шлях, каб зрабіць наша жыцьцё прыгажэйшым, каб запоўніць яго радасьцю і шчасьцем. І адной із такіх зорак зьяўляецца Ірэна Каляда".

Гэту цытату із пісьма 14-гадовай Тацьцяны Чарнашэй з Мозыра я выбрала для пачатку свайго артыкулу таму, што гэтая дзяўчынка вельмі вобразна і выразна перадала пачуцьці соцень беларускіх дзяцей, якія дзякуючы спадарыні Ірэне Калядзе змаглі паправіць сваё здароўе, акрыяць, прайсьці курс аздараўленьня ў Славеніі, Чэхіі, Балгарыі, Нямеччыне і Турцыі.

І таму гэтыя ўдзячныя душы пішуць і пішуць ёй... Вось, калі ласка, паслухайце далей гэты дзіцячы голас, бо ён вымагае таго, каб прывесьці яго цалкам.

..."Так, менавіта яна, спадарыня Ірэна змагла паказаць дзецям Беларусі ўсю прыгажосьць гэтага цудоўнага краю, багатага сваімі традыцыямі і прыгожай прыродай. І гэтым яна ўпрыгожыла наша жыцьцё, яна падаравала нам радасьць пабачыць гэты цудоўны куточак раю. Яна дала магчымасьць нам пабачыць такое месца на зямлі, дзе неба самае сьветлае, сонца самае яскравае, хмары, як вялікія ветразі, а зоркі адлюстроўваюцца ва ўсім: у неверагодных дрэвах, у незвычайных горах і ў бясконцым моры. Так гэты цудоўны куточак на зямлі — Славенію — дала магчымасьць нам пабачыць самая прыгожая душою і сэрцам "зорка". І я ўдзячная лёсу, што зямля падаравала людзям такога добрага і чулага чалавека — Ірэну Каляду — жанчыну, якую будуць паважаць усе дзеці за тое, што яна дарыць ім неверагодную цяплыню сваёй душы. І я ўдзячная лёсу за тое, што змагла адчыніць і для сябе гэтую яскравую зорку, і што яна змагла зрабіць дзіва і для мяне".

Тацьцяна Чарнашэй, 14 год. А колькі такіх пісьмаў! І ўсе яны імкнуцца хоць неяк адудзячыцца, перадаць свае пачуцьці, ушанаваць чалавека, які так шмат зрабіў для іх, дапамог, падаў руку ў цяжкі час...

Дык хто-ж ёсьць гэтая "зорка", адкуль яна і чаму так аддана працуе? Пра яе можна распавядаць шмат, але ўсё роўна цяжка будзе перадаць яе адданасьць Беларусі, яе працаздольнасьць, закаханасьць у дабрыню, радасьць ад магчымасьці аддаць сябе на карысьць тых, хто ў патрэбе, як вось гэтыя маленькія, асьвечаныя яе мацярынскім сьветам душы. Адкуль-жа ўсё гэта зьяднaлася ў адной душы? Вы не паверыце, але — факт— яе Род мае... амаль тысячагадовую гісторыю!!! Першыя зьвесткі пра род Каляды адносяцца, аж... да 1044 году, калі Вялікі князь Кіеўскі Яраслаў Мудры, захапіўшы Наваградак, пасадзіў кіраваць баярына Каляду 24 гадоў ад нараджэньня. І, ведаеце, кіравалў... Буйнейшыя прадстаўнікі роду Каляды ахвяравалі сваё жыцьцё і намаганьні на карысьць, славу і імя нашае Бацькаўшчыны. Харугві з гербам Каляды прыймалі ўдзел у бойках пад Грунвальдам (1410 год). Габрыэль Каляда заняў вышэйшую пасаду Ўніяцкай Царквы і стаў Мітрапалітам Кіеўскім і Ўсяе Русі (1666 год). Два прадстаўнікі роду Каляда ў якасьці Паўнамочных Амбасадараў падпісалі элекцыі Каралёў Рэчы Паспалітай Аўгуста II (Моцнага) ў 1697 годзе і Аўгуста Панятоўскага ў 1764 годзе і г.д.

Былі тут і дваране ў Расейскай Імпэрыі, былі і мяшчане і, нават, Гарадніцы Віленскі... Адным словам, генэалёгія роду Каляды засьвяцілася новай зоркай — _ Ірэнай Калядой — аж... за акіянам, у ЗША.

Як яна там апынулася? "...Бамбілі... Страшна было і людзі не памятаючы сябе ляцелі ў сховішчы. І мы ляцелі... Мне тады было каля 4-х годзікаў і я памятаю чамусьці гэта вельмі выразна... памятаю, як я раптам убачыла кветкі, такія прыгожыя кветкі і пачала іх зьбіраць... Яны вабілі мяне да сябе. А людзі ляцуць і ляцуць... Я разгубілася і крычу: "Мама! Мама! Мамачка!" На мяне ніхто не зьвяртаў увагі... Я, здаецца, спужалася... Але Бог паслаў мне добрых людзей, хтосьці пазнаў мяне, падабраў і прывёў да мамы... Памятаю яе рукі, якія пяшчотна абдымалі мяне, выразна памятаю яе вочы, поўныя сьлёз... Тады была радасьць!.. І мама нібы сьвяцілася... У мяне было яшчэ 2 брацікі, Юрка і Лёня, і ўсіх траіх мама гадавала адна, бо наш татка памёр ад сухотаў перад самым маім нараджэньнем...

Мама мела малачарню, дзе выраблялі сыры, а калі прыйшлі камуністы — дык усё забралі, але ў Сібір не выслалі таму, што людзі не далі; бо мама дапамагала калісьці ім, дзелючыся сваімі няхітрымі скарбамі.. І ўсё-ж такі нямецкіх працоўных лягераў пазбегчы не ўдалося. Вывезьлі ў Нямеччыну. Там працавалі вельмі цяжка: маю маму , як і другіх беларускіх жанчын, прымушалі ставіць цяжкія тэлефонныя слупы. Гэта была зусім не жаночая работа, але-ж якіх беларусак напалохаеш цяжкасьцямі?

А я была з бабуляй. Гаварылі толькі па-беларуску... І, відаць адгэтуль у мяне такая пяшчотная любоў да мэлёдыі беларускай мовы, на якой размаўлялі нашыя продкі...

...Памятаю, як у Нямеччыне мама, бабуля і я кудысьці ад'язджалі... Людзей было многа каля



цягніка і мы ніяк не маглі туды трапіць. Раптам неяк сталася, што натоўп падняў маму і яна, першая, апынулася ў цягніку, а мы засталіся з бабуляй на пэроне. Цягнік рушыў... Мама паехала... Мы ня ведалі, што рабіць. Усю ноч прасядзелі на сваіх клунках. Роспач. І раптам пад раніцу бачым... ідзе наша мама з валізкамі па шпалах... Адна. А час быў тады ліхі, шмат марадзёрста, рабункаў, але-ж яна ішла. Яна ведала, што дачушка і матулька патрабуюць яе дапамогі. І таму ішла. Бог яе вёў. Бо яна была добрая маці і добрая дачка. Мы тады плакалі ад шчасьця і абдымаліся. Ізноў была радасьць!.. — успамінае спадарыня Ірэна. І гэту радасьць пранясе Ірэна Каляда праз усё сваё жыцьцё. І галоўным сэнсам свайго жыцьця яна выбрала — тварыць радасьць у людзкіх душах, бачыць як сьвеціцца вочы ўваскрослай надзеі, адчыняць дзьверы ў сьвет нябачнага духоўнага сьвятла. Гэты выбар, відаць, быў ужо ў крыві гэтай чароўнай жанчыны — маленькай кропелькі старажытнага роду Каляды.

Апынуўшыся ў Амэрыцы, дзяўчынка мела добры прыклад яе маці — Клаўдзіі, якая ўсё сваё жыцьцё шчыравала на беларускай ніве, тут за мяжой. "Бывала, — расказвае адна з сяброўак Юзя Найдзюк, — мы закапаўшыся ў сваіх асабістых справах, мала ўвагі аддавалі беларускім справам. Тады спадарыня Клаўдзія крычала ў тэлефонную трубку: " А Божачка, дык вы-ж гультаі! Вы нічога ня робіце! А хто-ж гэта зробіць за вас? Мы-ж беларусы!"

І мо таму спадарыня Ірэна скончыўшы амэрыканскую вышэйшую школу, а потым бізнэс каледж, аднолькава прыгожа гаворыць, як па-ангельску, так і па-беларуску і бярэ на свае плечы найцяжэйшую працу беларускіх спраў. Так, як калісьці яе мама... Голас крыві? Але-ж... Дзе той голас у тых, продкі якіх таксама гаварылі па-беларуску і тварылі беларускія справы? Ці не ўздрыгнуць чыёсьці сэрца ад мэлёдыі душы і мовы беларуса? Вось паслухайце ўрывак з верша, які прыслаў Дзімітры Случак з вёскі Дарасіно.

Мова мая затаптаная,
Мова мая абсьмяяная...
Чаму-ж цябе затапталі?
Чаму-ж цябе абсьмяялі?..
Можа таму, што пакорная?
Можа таму, што цярплівая?..
А трэба было не маўчаць!
Трэба было за сябе пастаяць! і г.д.

Астаецца спадзявацца не на сябе, а на Бога, які прывядзе і пасароміць тых, хто як блудны сын, адхіліўшыся ад свайго бацькоўскага і матчынага, і вернецца пад страху сваіх каранёў і мо тады загарацца недзе ў будучых пакаленьнях зоркі іхных душ.

Але-ж мы крыху адхіліліся ад тэмы, хоць гэтыя разважаньні таксама льюць ваду на млын надзеі, увагі і адраджэньня беларускасьці...

Дзесьці на Наваградчыне не згубілася невялічкая вёсачка Падкасоўе, дзе нарадзілася Ірэна. І нейкім сваім ціхім голасам клікала і клікала яна да сябе... Цягнула. І адчула Ірэна голас яе. І паехала ў Беларусь! Можаце сабе ўявіць яе пачуцьці... А час тады быў асаблівы. Час Беларускага Адраджэньня. Узьнёсласьць, Беларускасьць. Адчыняліся беларускія школкі, дзіцячыя садочкі. Краіна нарэшце загаварыла на сваёй роднай мове на дзяржаўным узроўні. Ірэна Каляда адчула сябе дома. "Нарэшце,— думала яна — будзем "людзьмі звацца". Бо дзяржава гэта тэрыторыя і людзі са сваёю асаблівай мовай." Яна аглядала абуджаную прыроду — быў канец сакавіка, усё абуджалася, адраджалася, абяцала будучыню і сілы мацнелі. Ізноў была радасьць! Радасьць сустрэчы з зямлёй продкаў. Радасьць яднаньня з духам Беларусі, жывым кавалачкам якой яна была там, за акіянам.

Галасы тысячагадовага роду Каляды і голас іх нашчадкаў зьліліся ў адзін хор любові да Радзімы. "А любоў ёсьць надпрыродная энэргія, поўная магутнай сілы, якая творыць у нас нова, Боскае жыцьцё", — пісаў Апостал Павал. І гэтае Боскае жыцьцё адчула ў сабе спадарыня Ірэна і сказала мне: "Я ніколі, ніколі не была такая шчасьлівая, як тады на Беларусі". Кропельку гэтага шчасьця прывезла яна дамоў у ЗША і ператварыла ў штодзённую працу, арганізаваўшы справу на карысьць беларускіх дзетак, якія пацярпелі ад чарнобыльскай сатанінскай навалы. Шмат людзей шкадавала дзяцей на словах, але мала хто рабіў карыснае, бо гэта патрабавала энэргіі...

Адкрылі "Бінго" (гульня такая, на грошы), бо гэта была найлепшая магчымасьць дзейна дапамагаць. Калі зьявіліся крыху грошай, пачалі зьбіраць дзяцей, галоўным чынам з вёсак, пазбаўленых увагі, кволых, хворых, бездапаможных. "Цяпер, — кажа сп-ня Ірэна, — маю магчымасьць адпраўляць хворых дзяцей з Беларусі на лячэньне і аздараўленьне ў Нямеччыну, Чэхію, Турцыю, Славенію і Балгарыю. Бо там — "рай".

Вось урывак з ліста вучня 9-й клясы Ігара Землякова: "Мне 15 гадоў і ўвесь гэты час я жыву ў беларускім горадзе Віцебску, які мне вельмі падабаецца... Так хацелася-б павіншаваць з Калядамі адну вельмі добрую беларуску, з дапамогай якой беларускія дзеці вось ужо другі год запар могуць паправіць сваё здароўе на сонечным беразе Чорнага мора. Беларуску з імям Ірэна, што нават далёка ад Радзімы памятае пра краіну блакітных азёраў і рэк, непраходных пушчаў і лясоў, шырокіх лугоў і палеткаў, над якімі па вясьне распраўляе ў палёце свае крылы бусел"... Далей Ігар піша пра свае ўражаньні ад экскурсіяў у дэльфінарый, батанічны сад, дамах XIII стагодзьдзя, рэзыдэнцыі балгарскіх князёў і г.д. Потым ён расказвае сп-ні із-за акіяну пра футбольны матч з "пітэрцамі" з Расеі, дзе беларускія дзеці перамаглі вучняў "прэстыжнага піцерскага ліцэю з лічбамі 8:0!" І яшчэ пра тое, што госьці з Расеі даведаліся, што беларусы, аказваецца, ўмеюць размаўляць на сваёй роднай мове". І яшчэ пра тое піша Ігар, як была здабыта ізноў перамога на футбольным чэмпіянаце ў змаганьні цяпер з балгарскімі падлеткамі з лічбамі 4:1.

"Але самым галоўным дзівам, — піша ён далей, — было сьвяткаваньне Купальля, як для беларускіх дзяцей так і для мясцовых турыстаў. Для дзяцей таму, што адбывалася яно на моры, а не на рэчцы, як дома, а для турыстаў — таму што ўпершыню сустрэліся з беларускім фальклёрам. Было весела назіраць, як ангельцы, французы, немцы і іншыя людзі, пакінуўшы ў блізляжачых да мора рэстаранах сваю ежу, сьпяшаліся на пляжу, дзе мы сьпявалі свае песьні, скакалі праз вогнішча, шукаючы Купалінку. А адзін балгарын нават падзяліўся сваімі пачуцьцямі: "Я ніколі ня думаў, што беларусы ўмеюць так весяліцца".

Часта здаецца, што ад паводзін аднаго чалавека залежыць агульнае ўражаньне пра нацыю. Мне здаецца, што беларускія дзеці годна заявілі пра сябе і пра свой народ у Баўгарыі. А зрабіць гэта змаглі дзякуючы Вам, спадарыня, Ірэна. Кожны з нас калі вяртаўся неаднаразова прыгадваў вашыя ўчынкі на карысьць Беларусі (пра іх мы даведаліся ад кіраўнікоў групы) і зьдзіўляліся вашай непадробнай дабрынёй і клопатамі пра Радзіму. Я думаю пакуль існуюць такія людзі — Беларусь жыве і будзе жыць, бо кожны з удзельнікаў падарожжа ў будучым прысьвеціць сваё жыцьцё на карысьць Бацькаўшчыне."

Далей Ігар піша, што ўжо амаль год як працуе на Віцебскім абласным тэлебачаньні і змагаецца за беларускамоўныя перадачы "Замалёўкі пра вандроўкі", галоўная мэта якіх распавядаць пра такія куточкі Беларусі, дзе звычайнаму чалавеку не трапіць. Напрыканцы ліста ён піша: "Хацелася-б яшчэ раз сказаць вялікі Дзякуй за прыемныя ўражаньні лета, галоўнай падзеяй якога стала мая першая паездка за мяжу на Чорнае мора ў балгарскі горад Варна. Дзякуючы Вам сп-ня Ірэна Каляда".

І такіх лістоў шмат, А вось адно пісьмо такое: "... Становіца сумна, — піша М. Зарына, — калі помніш, што мы — дзеці Чарнобыля. З кожным ранкам мы прачынаемся з надзеяй на лепшую будучыню, бо без веры чалавек ня можа жыць. Але зараз мы ў Славеніі. Вельмі ўдзячныя тым людзям, якія дапамаглі нам, не пакінулі нас у бядзе. Пасьля адпачынку астануцца добрыя ўражаньні, дзякуючы сп-ні І. Калядзе".

Калі-б скласьці ўсе пісьмы і вершыкі гэтых дзяцей разам, то атрымалася-б невялічкая кніжка водгукаў

будучых грамадзянаў Беларусі аб іх суайчыніцы за акіянам. Нядрэнна-б было выдаць яе на Беларусі.

Дарэчы, Славенскі Урад даволі высока ацаніў заслугі сп-ні Ірэны Каляда ўзнагародзіўшы яе Ганаровым Дыплёмам. Добры прыклад і для нашага Ураду паклапаціцца на гэты конт. Яна ўжо толькі ў чэрвені запрасіла 250 беларускіх дзетак на адпачынак і аздараўленьне ў Славенію і Балгарыю. Пра яе пішуць амэрыканскія, славенскія і балгарскія газэты. У Амэрыцы, дзе жыве вельмі шмат беларусаў, яна таксама папулярная. Ёй прысьвячаюць вершы і апавяданьні. А ў жыцьці гэта прыгожая, з вялікімі зялёнымі вачыма жанчына, "заўсёды занятая", з чароўным голасам. Вучылася вакалу ў самога кампазытара Равенскага, які хацеў яе бачыць опернай сьпявачкай. Адданая маці, верная жонка. Яе муж Юры Сьмірноў, сын сьвятара, паходзіць з Кобрына і таксама рука аб руку з жонкай працуе на карысьць беларускіх дзяцей У іх поўнае паразуменьне і закаханасьць у адны і тыя-ж ідэалы...

Ірэна Каляда яшчэ і шчырая сяброўка, мае шмат сяброў, якіх яна змагла аб'яднаць вакол сябе. Гэта людзі розных нацыянальнасьцяў, такія як кітайка Джуды Вонг і славенец-амэрыканец Марыё Кавсык ды іншыя. Усе яны аддана працуюць на карысьць Беларусі. Спадарыня Ірэна мае моцную сілу волі і ведае чаго яна хоча. Дастойная прадстаўніца стаража́тнага роду Каляды ў ЗША. Відавочна, што сьвятло, якое калісьці запаліў яе далёкі продак на Навагрудчыне, панесла аж за акіян яго нашчадніца Ірэна "Зорка", якая яскрава гарыць і "ніколі-ніколі не згасьне, бо ад яе духоўнага сьвятла запаліліся і — веру— запаліцца столькі "зорак" для нашае Беларусі, колькі запалілася ад яе прашчура. І вось таму пакуль гараць нашыя родныя "беларускія зоркі", дзе-б яны ні былі — жыла, жыве і будзе жыць Беларусь, асьвечаная Боскай энэргіяй любові сваіх дзяцей".

PS. Калі артыкул быў гатовы, я даведалася, што дзіцячыя сіроцкія дамы, садочкі і бедныя людзі ў вёсках атрымалі 8 тонаў адзежы, якую сп-ня Ірэна Каляда пераслала з ЗША ў Беларусь. Адну тону адзежы яна накіравала ў Наваградак, адкуль яна паходзіць. І ізноў была радасьць. У перасылцы было шмат коўдраў, якія саграюць цяпер беларускіх дзяцей і людзей у такую халодную і сьнежную зіму, якая сёлета на Беларусі. Бачыце, цяпло яе душы матэрыялізавалася і ператварылася ізноў ў радасьць! Ці-ж гэта ня добры прыклад для нас усіх?

************************************************

# «У энцыклапедыі павінен значыцца і геній-стваральнік, і геній-разбуральнік»

**Гутарыла Алена ЛЯЎКОВІЧ.** (Зв-да)

1 студзеня наступнага года споўніцца трыццаць пяць гадоў самаму, бадай, «сур'ёзнаму», «акадэмічнаму» выдавецтву нашай краіны — «Беларускай энцыклапедыі». Юбілей не зусім «круглы», не вельмі вялікі, але пахваліцца «БелЭн» ужо сёння можа шмат чым. Толькі энцыклапедычных кніг-тамоў за гэтыя гады было выдадзена больш за пяцьсот. Праца выдавецтва вывела нашу краіну ў шэраг нямногіх дзяржаў свету, якія маюць высокаразвітую сістэму выдання навукова-даведачнай літаратуры. Наш карэспандэнт гутарыла з галоўным рэдактарам выдавецтва Генадзем Пашковым.

**— Генадзь, несумненна, гонарам і галоўным набыткам вашага выдавецтва на сённяшні дзень зьяўляецца «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя»...**

— Так, уласна з падрыхтоўкі і выдання гэтай 12-томнай энцыклапедыі і пачалася дзейнасць нашага выдавецтва. Але ж за гэтыя гады багата было і іншых выданняў, вартых увагі. Скажам, 6-томная энцыклапедыя «Прырода Беларусі», якая адзначана срэбным медалём ААН. Ці трохтомная «Біблія Францыска Скарыны», выдадзеная да юбілею першадрукара, 5-томная «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі». Даведнікі «Этнаграфія Беларусі», «Архітэктура Беларусі», «Беларусь у Вялікай Айчынный вайне», «Археалогія і нумізматыка Беларусі» знайшлі сваіх зацікаўленых чытачоў не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.

**— І ўсё ж я пачала казаць пра «Беларускую Савецкую Энцыклапедыю» найперш таму, што яна, нягледзячы на сваю значнасць, усё ж, пагадзіцеся, крыху «састарэла». Чытачы чакаюць новага выдання універсальнага даведніка, свабоднага ад прыметніка «савецкі», а значыць, і ад пэўных ідэалагічных догмаў. Калі мы будзем мець магчымасць пазнаёміцца з ім у поўным аб'ёме?**

— На сённяшні дзень мы ўжо маем 12 тамоў з запланаваных 18-ці. Да новага года пабачыць свет яшчэ адзін, 13-ы том. Цалкам «Беларуская Энцыклапедыя», можа, выйдзе ў 2004 годзе. Сапраўды, новае выданне «Беларускай Энцыклапедыі» вельмі адрозніваецца ад таго, што было. Значна большы аб'ём, амаль усе ілюстрацыі каляровыя. І самае галоўнае — яно не падвержана ідэалагічным устаноўкам, тым больш цэнзуры. Гэта энцыклапедыя новага часу і светапогляду, своеасаблівы «мост» паміж тысячагоддзем мінулым і сённяшнім. Сама па сабе энцыклапедычная навука крыху кансерватыўная, таму працаваць над новым выданнем у гэты час складана і цікава. Але асноўны прынцып нашай працы застаецца непарушным — як мага менш ацэнак, як мага больш праўды — навукова выверанных, дакладных фактаў...

**— Але ж у кожнага, кажуць, свая праўда...**

— Свае ацэнкі, вы хочаце сказаць. Так, несумненна, часам ёсць у наш бок нараканні, бо некаторыя чытачы глядзяць на энцыклапедыю, як на Дошку гонару: занесены ў энцыклапедыю — значыць, герой. На самай справе ў энцыклапедыі павінен значыцца і геній-стваральнік, і геній-разбуральнік. Энцыклапедыя павінна падаваць усю гісторыю і ўсе веды, назапашаныя чалавецтвам, а не адбіраць па прынцыпу «добрае — дрэннае». Вось як прыклад. Невялікі артыкул «перабудова» перш чым зьявіцца на старонцы выдання, меў дзесяць варыянтаў і прайшоў пятнаццаць навуковых экспертыз. Чаму? Бо ў кожнага сваё меркаванне наконт гэтага паняцця. Камусьці перабудова паламала жыццё і кар'еру, для кагосьці стала сімвалам перамен і свабоды... Нашы навуковыя кансультанты і рэдкалегія выбіралі паміж процілеглымі варыянтамі...

**— І на якім жа, нарэшце, спыніліся?**

— На тым, у якім менш ацэнак і больш дакументальных фактаў.

**— Наколькі, на ваш погляд, адпавядае рэчаіснасці «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», якая ствараліся ў апошняе дзесяцігоддзе, калі школьныя падручнікі па гісторыі нашай краіны перапісваліся некалькі разоў?**

— Нашы расійскія калегі пайшлі прасцейшым шляхам — яны выпусцілі тры тамы гістарычнай энцыклапедыі — да 1917 года, а з навейшай гісторыяй выращылі пачакаць. Мы зрабілі інакш. Мы не чакаем сталых ацэнак. Мы прытрымліваемся ўсё таго ж галоўнага энцыклапедычнага правіла — як мага больш навукова правераных фактаў і дакументаў. Наша задача — не размяжоўваць, не прайсці нейкай трэшчынай па светапогляду ні асобнага чалавека, ні грамадства. Наш шлях — нейтральная паласа паміж двума франтамі, і ісці па ім мы павінны так, каб абодва варагуючыя бакі пацягнуліся за намі... Дарэчы, зацікаўленым чытачам хачу сказаць, што ў дадатак да ўжо выпушчаных шасці кніг «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» ў 2003 годзе выйдзе апошняя кніга выдання — другая кніга шостага тома.

**— Атрымліваецца, што праца над самымі значнымі даведнікамі хутка завершыцца. А што далей?**

— Ужо вядзецца гаворка аб тым, каб пасля выдання 18-томнай энцыклапедыі падрыхтаваць яе скарочаны варыянт — у шасці тамах на рускай мове. Тое самае з «Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі» — яе мяркуем перавыдаць у 2-х тамах, а пасля па-руску. Руская мова дазволіць пашырыць інфармацыйнае поле і выйсці за межы Беларусі.

**— Але ж на дзвюх энцыклапедыях выдавецтву не пратрымацца...**

— Працуючы над грунтоўнымі, фундамэнтальнымі выданнямі, мы выпускаем і багата іншай даведачнай літаратуры. Сёлета пабачылі свет энцыклапедычныя даведнікі «Асветнікі зямлі Беларускай», «Гісторыя сусветнай культуры», «Помнікі сусветнай спадчыны», да юбілею хрысціянства выйшлі энцыклапедычныя даведнікі па праваслаўных і каталіцкіх храмах Беларусі, на падыходзе энцыклапедычны даведнік «Рэлігія на Беларусі». Працуем таксама над выпускам гісторыка-дакументальнай серыі «Памяць»: нядаўна выйшла кніга па Шчучынскаму раёну, на чарзе — Полацк, Віцебск, Смаргонскі раён... Выдаём нямала самаакупнай літаратуры — даведнікі для абітурыентаў па розных прадметах... У наступным годзе павінна выйсці доўгачаканая «Тэатральная энцыклапедыя Беларусі». Таксама мяркуем выдаць вельмі цікавую «Дарожную энцыклапедыю Беларусі». Мяркуем у хуткім часе перавыдаць «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» і «Руска-беларускі слоўнік» у трох тамах. Рыхтуецца перавыданне «Ілюстраванай храналогіі гісторыі Беларусі», падарункавага варыянта, які ўжо вытрымаў некалькі выданняў і карыстаецца нязменным попытам...

**— Гэта скарочаны варыянт гістарычнай энцыклапедыі?**

— Не, гэта зусім іншае выданне. У ім багата ілюстрацый і нашмат менш тэксту. Дарэчы, абноўленае перавыданне падасць ілюстраваную храналогію падзей у нашай краіне аж да 1 студзеня 2002 года.

**— Якую кнігу, падрыхтаваную ў выдавецтве, яго галоўны рэдактар хацеў бы атрымаць у якасці падарунка ў юбілейны год?**

— Мы не збіраліся рабіць нейкае адмысловае падарункавае выданне. Бо найлепшым падарункам для ўсіх нас будзе дастойны выпуск «Беларускай Энцыклапедыі» і «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». А вось пасля выхаду гэтых шматтомных энцыклапедый я мару выпусціць кнігу пра Беларусь. Шыкоўна ілюстраваную, на некалькіх мовах... Хочацца, каб такая кніга стала своеасаблівым пашпартам Беларусі. Патрэбны таксама добрыя даведнікі і пра нашу сталіцу Мінск, і пра іншыя вялікія беларускія гарады.

*****************************************************

# *ПАД СІНІМ НЕБАМ*

Нядаўна ў пэдагагічным унівэрсытэце імя М. Танка студэнцкая моладзь сабралася ў клюбе творчых дыялёгаў на чарговую вечарыну "Пад сінім небам", якая была прысьвечана пэзіі Натальлі Арсеневай. Утульная аўдыторыя, куды завіталі прыхільнікі творчасьці паэткі, поўнілася ціхімі гукамі музыкі. Першае, што кінулася ў вочы, — адчуваньне нейкага чароўнага сьвята, бо менавіта сьвяточнасьць бачылася і ў блакітных, бы само неба, фіранках, і ў песьнях, дзе кожнае слова Н. Арсеньневай дыхала прыгажосьцю. У прадчуваньні цікавага маладыя людзі з хваляваньнем чакалі вечарыны.

Нарэшце патухла сьвятло. Усё сьціхла. Здавалася, гэта цішыня будзе цягнуцца бясконца, як раптам, нечакана для ўсіх, па пакоі паплылі цудоўныя гукі музыкі, а на сцэне зьявіліся артысты тэатру "Жывое слова". Яны пачалі чытаць вершы Н. Арсеньневай. Гэта было ня проста чытаньне, а сапраўдны тэатралізаваны спэктакль, у якім юнакі і дзяўчаты выглядалі прафэсійнымі акторамі. Выдатна скампанаванае выступленьне праста ўражвала сваёй арыгінальнасьцю. Здавалася, слухаючы зьліліся з прыдуманымі паэткай вобразамі ў адзіное цэлае.

А наперадзе была яшчэ сустрэча з Уладзімірам Арловым. Размова з вядомым пісьменьнікам і паэтам пачалася з пытаньняў, якія тычыліся, канечне-ж, Н. Арсеньневай. У. Арлоў цікава расказаў пра сваю сустрэчу з выдатнай беларускай паэткай. Вельмі спадабаўся адзін эпізод: у Амэрыцы, а менавіта каля дому спадарыні Натальлі, квітнелі не якія-небудзь там заморскія кветкі, а блакітныя валошкі. Як гэта цудоўна, калі чалавека акаляе тое, што нагадвае яму пра адзіную, непаўторную старонку, якая завецца Бацькаўшчынай! А потым ізноў і ізноў гучалі вершы. А на заканчэньне, нібы гімн, прагучала "Малітва" Натальлі Арсеньневай. Гледзячы на прысутных, можна было зразумець, што вечарына ўдалася. Твар кожнага асьвятляла прывабная ўсьмешка. А калі людзі здольныя вось так, па-добраму, усьміхацца, значыць, іх сэрцы не счарсьцьвелі, значыць, яны здольныя любіць такі цуд, як паэзія.

*Вікторыя Бруй.*

==============================

**Выдавецкі Фонд нашае газэты просіць не забывацца пра яго патрэбы!**

# Сто Беларускіх Кнігаў XX ст.

Бывай, XX ст. Мы сыходзім. Мы пакідаем гэты пыльна-фіялетавы Афганістан у руінах. Мы яшчэ доўга будзем згадваць цябе, XX ст. Твае рэвалюцыі ды войны, курапаты, хатыні, чарнобылі. А што сьветлага - дык хіба нешта асабістае, кожнаму сваё, зь дзяцінства. Сьветла заўсёды наперадзе. Бо мы сыходзім фатальна і незваротна. Мы сыходзім і гасім за сабою сьвятло...

Для Беларусі гэта было літаратурнае стагодзьдзе. Нацыя, Паэзія і Камуна нараджаліся ўвадначасьсе і староньняму назіральніку часьцяком не ўдавалася адрозьніць іх паміжсобку. Што ўжо казаць пра самых народжаных! Нацыя паэтаў і нацыя бальшавікоў ствараla сябе, абвяшчала пра сябе сьвету і забівала сябе. Літаратура нараджалася і гінула. Тысячы людзей, што ўсьвядомілі сябе беларусамі, браліся да прыгожага пісьменства з усім сваім энтузіязмам і прападалі ад юначае безагляднасьці і неабачлівасьці. Нацыя напоўніцу перажыла гэтае стагодзьдзе праз літаратуру, літаратура напоўніцу адлюстравала нацыянальны лёс. Ніводзін іншы від творчасьці гэтак поўна і сыстэмна ня выказаў Беларусь у XX ст. І ніводзін за гэтае стагодзьдзе ня склаўся ў такую самадастатковую карціну, як гэта адбылося зь літаратурай.

Архітэктура толькі бліснула некалькімі помнікамі канструктывізму, надзвычай кволымі пошукамі нацыянальнага стылю, татальнай забудовай савецкіх хрушчовак ды панэльных брэжневак, і беспрэцэдэнтным вынішчэньнем помнікаў мінулых эпохаў. Абсалютна эклектычная і фрагмэнтарная атрымалася карціна. Уявіць сабе цэльную гісторыю беларускай архітэктуры ў XX ст. немагчыма. У параўнаньні з папярэднімі эпохамі - поўны заняпад. Падобным чынам выглядае і выяўленчае мастацтва. Віцебская школа 20-х, маляваныя дываны Алены Кіш, прыход цэлае плоймы графікаў у 70-я - зьявы, нічым міжсобку не зьвязаныя. Музыка праз усё стагодзьдзе раскрапілёная песьнямі, у якіх яна жанрава чаплялася за тое самае прыгожае пісьменства, за літаратуру. Літаратурнае стагодзьдзе ўспрымаецца як выдумка, фікцыя, у якую здаровы розум часьцяком адмаўляецца верыць...

Тры з паловай гады таму газэта "Наша Ніва" надрукавала сьпіс ста найлепшых кніжак XX стагодзьдзя. Той сьпіс быў складзены супрацоўнікамі Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі і ахопліваў кнігі ўсяго сьвету і ва ўсіх сфэрах жыцьця чалавецтва. У канцы сьпісу рэдакцыя прапанавала чытачам стварыць свой сьпіс - ста найлепшых беларускіх кніг XX ст. І вось за прамінулы час было атрымана мноства лістоў з прапановамі. Хто пару-тройку кніжак называў, а хто і ўсе сто. Пэрыядычна на старонках "Нашай Нівы" друкаваліся прамежкавыя падлікі - сьпісы самых папулярных кніг. А ўсе ўвогуле прапановы заносіліся ў агульны рэдакцыйны сьпіс. На сёньняшні дзень гэты агульны сьпіс уключае тысячу назваў. Ці магло штосьці зь неаспрэчных літаратурных каштоўнасьцяў туды не патрапіць? Верагодна, не. Бо пісалі людзі самых розных узростаў, адрасоў і прыхільнасьцяў. Колькі ўсяго было выдадзена беларускіх кніг у XX ст.? Напэўна, тысячаў сто. Выбраўшы зь іх сто найлепшых, "Наша Ніва" паставіла мэту сфармаваць унівэрсальную бібліятэку беларускай цывілізацыі і новую, постсавецкую ерархію нацыянальных культурных аўтарытэтаў. Што ў выніку атрымалася?

Каб адразу зьняць папрокі і зразумець "недарэчнасьці", трэба мець на ўвазе, што гэта - вынік апытаньня не спэцыялістаў альбо ўсіх наагул, а менавіта чытачоў "Нашай Нівы". Натуральна, гэта аўдыторыя людзей, далучаных да таемстваў беларушчыны. Але яны так ці інакш падпадаюць пад уплыў рэдакцыйнае палітыкі, лепей ведаюць тых паэтаў і пісьменьнікаў, пра якіх часьцей і грунтаўней піша газэта. Самі матывацыі адбору - зусім розныя. Найчасьцей гэта знакавыя кнігі. Сапраўды, як можа выглядаць такі сьпіс без Купалы і Коласа? Нават калі ў вас не ўзьнікае патрэбы зьвяртацца да іхных твораў. Як казала адна мая знаёмая, я ведаю, што наша гісторыя - багатая і слаўная, і мне гэтага дастаткова, каб ганарыцца сваёй краінай і сваім народам. Другі матыў -- гэта ўсё адно як адкладаньне тых кніг, якія хацелася б прачытаць. Сапраўды, калі кіравацца матывам -- што б я ўзяў з сабой "у космас", дык, натуральна, узяў бы найперш ня тое, што перачытваць, а тое, чаго яшчэ не чытаў. Яшчэ адзін матыў -- інтарэсы наступных пакаленьняў -- кнігі, якія павінны прачытаць дзеці. Альбо яшчэ -- чытаў некалі, пра што -- ня помню, але нечым добрым запомнілася. Ну і мноства драбнейшых матываў -- што згадваецца са школьнай праграмы, ці вось такі -- скласьці сьпіс зь нікому невядомых, але, безумоўна, вартых кніг... Словам, матывацыяў мноства, і гэта дазваляе лічыць нашаніўскі рэйтынг дастаткова аб'ектыўным. Хоць ён і шмат у чым не супадае з афіцыйнай, выпрацаванай за савецкім часам ерархіяй. Зрэшты, тут спрацоўвае галоўны нашаніўскі прынцып, які можна акрэсьліць адным словам - дэкамунізацыя. Так ці інакш, газэта не прэтэндуе на поўную аб'ектыўнасьць свайго праекту -- хутчэй гэта сукупнасьць суб'ектыўнасьцяў. Нам жа прапануецца проста не забывацца на тое, што гэты сьпіс складзены менавіта нашаніўскай аўдыторыяй.

Паэт стагодзьдзя ў Беларусі -- зь вялікім адрывам ад іншых -- Максім Багдановіч. Менавіта яму належыць і беларуская кніга стагодзьдзя - "Вянок" - тая, што выйшла ў 1913 годзе. Яе чытачы Нашай Нівы назвалі 60 разоў і гэта максымальная лічба. Цікава, што Максім Багдановіч амаль усё сьведамае жыцьцё быў па-за Беларусяй і мову вывучаў з кніг. І пражыў усяго 26 гадоў. Нават партрэта нармальнага не засталося - адно прыдуманыя. І разам з тым, няма ніякага ўяўленьня, што б ён рабіў, калі б не памёр напярэдадні рэвалюцыі ў 17-м. Настолькі, здаецца, поўна і прыгожа выказаўся, а новая рэальнасьць магла запатрабаваць ад яго такіх песень, што загасілі б увесь папярэдні эстэтычны падзьвіг любімага паэта нацыі. Раньняя сьмерць спрычынілася да таго, каб мы мелі ягоны талент нерастрачаным. Міжволі думаеш пра тое, як усё ж доўгае творчае жыцьцё можа зьнівэляваць уражаньне ад шэдэўраў, напісаных у маладосьці. Згадваюцца словы Альбэра Камю: мы занадта доўга жывем. Альбо прыклад Сэлінджэра, які сьвядома перастаў займацца літаратурай, як толькі адчуў, што, кажучы словамі Адама Глёбуса, паэзія пакінула яго. Што праўда, кароткі век -- зусім не для ўсіх творцаў закон. Жыў бы далей Караткевіч, мелі б мы яшчэ тузін выдатных яговых кніг.

Уладзімер Караткевіч -- пісьменьнік стагодзьдзя, ён па-за канкурэнцыяй. Чытачы "Нашай Нівы" называлі ягоныя кнігі 277 разоў, а ягонае "Дзікае паляваньне караля Стаха" -- самая любімая пасьля багдановіцкага "Вянка" беларуская кніга.

Трэцяя постаць у нашаніўскім рэйтынгу - Васіль Быкаў. Яго згадвалі 209 разоў. Гэта, так бы мовіць, вяршыні, неаспрэчныя каштоўнасьці. Да прыкладу, кнігі наступнага ў рэйтынгу - Янкі Купалы - называліся 129 разоў.

Лідэрства Багдановіча і Караткевіча разьмяшчаецца па-за савецкай ідэалёгіяй. Першы ўсё напісаў яшчэ да камунізму, другі -- на выхадзе з камунізму. Гэта значыць, што аплодненая камунай нацыянальная ідэя ня дала ў выніку пазачасавых шэдэўраў.

Карціна літаратурнага стагодзьдзя ў сьпісе ста беларускіх кніг зусім выразна адбівае тыя этапы, якія ў гэты пэрыяд праходзіла беларуская нацыя. Літаратура тут цалкам апраўдала сваю функцыю "паралельнага жыцьця". І я не ўтрымаўся ад спакусы вызначыць галоўную падзею беларускай гісторыі ў XX ст. Але зрабіць гэта вырашыў ня сам, а папрасіў мастацтвазнаўцу Сяргея Харэўскага.

(Сяргей Харэўскі:) "Калі гаварыць пра галоўныя падзеі XX ст., дык гэта пэўна што ня войны, рэвалюцыі, ці тэрор. Бо яны прамінаюць, пакідаючы адно магілы й попел. Як на маю думку, найвялікшай падзеяй стаў верасень 1939-га, калі Беларусь набыла цяперашнія межы і... страціла Вільню. Амаль цалкам яна злучылася ў вадно, і запаветная беларуская мара зьдзейснілася. Натуральна, усё адбылося ня гэтак, як марылася. Беларусь бязь Вільні... І гэта таксама фатальным чынам зьмяніла беларускі дыскурс. Мо й праўда, найвялікшыя мары, калі яны зьдзяйсьняюцца, тускнеюць і на вачох пераўтвараюцца ў побыт, у дадзенасьць, за якою недалёкае мінулае ўжо забываецца, а новыя клопаты й страхі здаюцца большымі за колішнія... Вось Калюмб у захапленьні ўдыхае райскі водар Новага Сьвету... Хто б мог падумаць у 91-м, што незалежнасьць Беларусі атрымае гэткі вывіхнуты выгляд, як цяпер? І замест росквіту нацыянальнае культуры й мовы, свая ж дзяржава будзе вытаптываць усё беларускае...

Так, Заходняя Беларусь не атрымала вызваленьня. Замест польскага бізуна яна атрымала новы тэрор, нястачу й духоўнае паняволеньне... Але цяпер на ўсіх беларусаў выпадаў адзіны лёс. Што магло быць альтэрнатываю? Ці варта паўтараць, што напрыканцы 30-х у Польшчы было амаль цалкам зьліквідаванае беларускае школьніцтва, павысыланыя беларускія сьвятары, а празь несупынныя рэпрэсіі ледзь ліпеў беларускі друк? Палянізацыя захоплівала ўсё новыя пласты грамадзтва й колькасьць анкетных палякаў несупынна расла. Ні ў водным з сваіх гарадоў беларусы не перавышалі колькасьць палякаў. Ня куляю ў патыліцу, а асьветаю зьнішчалася беларушчына ў Польшчы. І гэта было нашмат больш пэўна. Досьвед цяперашнее Беласточчыны пра тое яскрава сьведчыць. У тых мясцовасьцях, дзе яшчэ Казімер Сваяк правіў імшу па-беларуску, сёньня беларусам ніхто не азавецца... А на Гарадзеншчыне ці Заходнім Паазер'і тубыльцы й да сёньня ня надта ахвочыя прызнавацца беларусамі. Часьцяком даводзілася там чуць гарачыя спрэчкі на прызбах. І гэта праз 60 гадоў! Хапіла толькі 18 гадоў палянафільскай культурніцкай дзейнасьці.

Вымысьляць сабе іншыя варыянты злучэньня дзьвюх Беларусяў нагэтулькі сур'ёзна, як і ўяўляць сабе сёньняшняе дэмакратычнае далучэньне Беласточчыны, Віленшчыны ці Смаленшчыны. Давайце прыплюшчым вочы і ўявім. Як па мне – дык не ўяўляю. Ня будзем крывіць душою. Літоўцы, напрыклад, хітруюць, асуджаючы пакт Молатава-Рыбэнтропа. "Vilnius – musu, Lietuva – rusu" (Вільня наша, Літва расейская), - любілі ёрнічаць старыя літоўцы. Але ж яны не паддавалі сумневу тое, што й Вільня, і Клайпеда мусяць належыць ім. Сёньня ў Літве з таго ня ёрнічаюць. Хоць і касавурацца на гэткія савецкія падарункі. Факт!

Дзякуючы таму ўзьяднаньню, за ўсялякімі выдаткамі трэба бачыць галоўнае: беларускасьць атрымала калясальную падпітку з абодвух бакоў. Праз усе церні, празь недасканаласьць абставінаў месца й часу, беларуская культура злучылася ў вадно. Калі ўявіць сабе на хвіліну, што тыя, хто жыў бы толькі на ўсходнім беразе, ня мелі б адчуваньня таго, што ім таксама належаць Лідзкі й Навагарадзкі замкі, Белавеская пушча, фэерычны сьвет Заходняга Палесься.... Дарэчы, пра Заходняе Палесьсе... Хто б з тамтэйшых тубыльцаў мог сабе 60 гадоў таму ўявіць, што будзе жыць у незалежнай беларускай дзяржаве? Набяруся сьмеласьці сказаць, што нямногія. Роўна ж як і жыхары Віленшчыны нават ня мысьлілі сябе ў межах літоўскае Літвы.

Але беларуская супольная культура ў выніку драмы 39-га году, атрымала нашмат больш глыбіні й досьведу. Сотні творцаў з абодвух бакоў здолелі перамяшчацца па сваім краі. Мастакі, літаратары, музыкі, дойліды. Калясальны людзкі патэнцыял сканцэнтраваўся ў Менску. Невыпадкова амаль уся палітычная эліта, што ачоліла ад пачатку незалежную беларускую дзяржаву, была заходняю: Шушкевіч, Кебіч, Грыб, Краўчанка, Багданкевіч...

Заходняя й Ўсходняя Беларусі – што два людзкія пачаткі, зачалі супольнае дзіця. І за гэта, як, зрэшты, і за любое што вартаснае, трэба было плаціць.

Адбылося тое, што адбылося. Не дакладна, ня літасьціва, ня гэтак прыгожа, як мроілася, ці яшчэ мо мроіцца. Але Беларусь атрымала два крылы. І цяпер толькі ад беларусаў залежыць, як і куды ляцець".

(С.Дубавец:)" Сяргей Харэўскі называе галоўнай падзеяй узьяднаньне Заходняй і Ўсходняй Беларусі. У пасьляваенны час заходнебеларускія аўтары ня надта ганараваліся ў школьных

праграмах. Укарэньваўся стэрэатып, што цэнтрам культуры ў міжваенны пэрыяд быў Менск, а заходнебеларускія творцы -- нібы маргінальныя, не зусім правільныя. Ажно за апошняе дзесяцігодзьдзе стала зразумела, што гэта ня так. І нашаніўскі рэйтынг ста кніг XX ст. пацьвярджае гэта.

1920 год пазначаны "Гісторыяй беларускай літаратуры" Гарэцкага, а наступны, 21-шы -- брашуркай "Адвечным шляхам" Ігната Абдзіраловіча. Абодва творцы - віленскія. У 22-м выходзяць апошні том "Беларусаў" Карскага і "Спадчына" Янкі Купалы. Менскія выданьні. Далей заходнія і ўсходнія кніжкі чаргуюцца. Напрыклад, у 27-м выходзяць "Байкі" Крапівы ў Менску і "Пад сінім небам" Арсеньневай у Вільні. У самы разгар бальшавіцкіх рэпрэсіяў супраць беларускай інтэлігенцыі карціна выглядае так: у 35-м у Менску - "Трэцяе пакаленьне" Чорнага, у 36-м у Вільні - "На этапах" Максіма Танка. 37-мы пазначаны дзьвюма кнігамі: менскім "Міколкам-паравозам" Лынькова і віленскай кніжкай "У кіпцюрох ГПУ" Францішка Аляхновіча. У 38-м пуста, а ў 39-м - крапівоўская "Хто сьмяецца апошнім". Сымбалічная назва. Пасьмяяліся. Кандрат Крапіва быў на той час прызнаным монстрам беларускай савецкай літаратуры і ўдзельнічаў у так званым вызваленчым паходзе савецкай арміі ў Заходнюю Беларусь. Ведаючы нядобры кантэкст часу, гэты радок у ягонай біяграфіі ўспрымаеш як паездку на сафары...

Мінулая вайна прадстаўленая ў нашаніўскім рэйтынгу ўсяго дзьвюма кніжкамі -- зусім ня тых аўтараў, якія выпускалі газэту "Раздавім фашысцкую гадзіну". Час усё расстаўляе на свае месцы і важнейшым робіцца не савецкае або фашыстоўскае, а тое, дзе галоўны матыў творчасьці -- беларушчына, яе суб'ектнае самавыяўленьне. Чытачы назвалі зборнік Ларысы Геніюш "Ад родных ніў", які выйшаў у Празе і кнігу "Беларусь учора і сяньня" Найдзюка, пазначаную акупаваным немцамі Менскам. Я б дадаў сюды яшчэ й "Каханы горад" Юстапчыка -- першы буйны празаічны твор пра вайну, і таксама несавецкі, на жаль, яшчэ шырака невядомы. Далей гэтая галіна беларускай літаратуры цалкам выцясьняецца на эміграцыю ідэалізаванай савецкай літаратурай. Пасьляваенны пэрыяд пазначаны панаваньнем менскіх пісьменьнікаў. Але нашаніўскі рэйтынг і тут уносіць карэктывы ў нашыя ўчорашнія школьнапраграмныя стэрэатыпы. На ўсе 50-я гады - толькі дзьве кнігі - "На ростанях" Якуба Коласа і эміґранцкая "Плыве з-пад сьвятое гары Нёман" Юркі Віцьбіча. Сапраўдная хваля літаратуры пачынаецца у часы хрушчоўскае адлігі. Мележ, Брыль, Быкаў, Караткевіч пануюць у 60-я - 70-я - 80-я гады. Паступова да іх далучаюцца іншыя творцы, пераважае гістарычная тэматыка. Цікава, што не засталіся незаўважанымі і эміґранцкія кнігі Янкі Станкевіча, Яўгена Калубовіча, Вітаўта Кіпеля, кнігі беларусаў у Польшчы. Пэўны фэномэн нашаніўскага сьпісу - выданьні Вітаўта Чаропкі. Іх спаміж ста кніг XX ст. ажно пяць. Асабіста я вытлумачыў бы гэткую папулярнасьць ня вельмі дасканалых твораў непераборлівасьцю чытача ў часе страшэннага голаду на гістарычную літаратуру, а таксама -- тугою па Караткевічу.

Камуна, што так зраслася была з нацыянальным адраджэньнем і зь беларускай літаратурай у XX ст., верагодна будзе цяпер паступова і няўхільна забывацца. Няма ў нашаніўскім рэйтынгу кніг Броўкі, Куляшова, Макаёнка ды некаторых іншых народна-партыйных песьняроў. Не таму няма, што ставілася задача іх забыць. Магчыма, для большае верагоднасьці гэтага сьпісу было б выгадней, каб такія кнігі якраз былі. Але ж ёсьць у іхнай адсутнасьці бадай адна прычына. Іхны аўтарытэт быў створаны савецкай ідэалёгіяй, бо служылі гэтай ідэалёгіі. Але ж ідэалёгіі мінаюць, і застаецца толькі тое, што служыць вечным каштоўнасьцям, сярод якіх і пачуцьцё свае нацыі, саматоеснасьць.

Рэйтынг у "Нашай Ніве" паказаў, што беларушчына вызваляецца ад камуны. Беларус -- значыць бальшавік, любілі паўтараць польскія асаднікі на ўсходніх крэсах у міжваенны пэрыяд. Але беларус быў камуністам у такой самай ступені, як немец або вугорац. Толькі мэтраполія таго камунізму, на які запаў беларус, разьмясьцілася ў Маскве -- і таму камунізм гэты не ператвараўся ўрэшце ў маргінальную грамадзкую плынь, як гэта адбылося ў ЗША, і ня стаў лібэральным і прымірэнчым, як у Францыі, а набыў нутро расейскага імпэрыялізму ў абліччы інтэрнацыяналісцкіх лёзунгаў. Верагодна, натхнёныя душы беларускіх паэтаў у 20-я гады яшчэ не вычувалі гэтага нутра. І папаліся...

Завяршае XX ст. у кніжным рэйтынгу "Нашай Нівы" кніга, пазначаная 1999-м годам і сэрыяй "Беларускі кнігазбор". На вокладцы прозьвішча - Кастусь Каліноўскі. Быццам і не было гэтага стагодзьдзя, руіны якога праз пару тыдняў застануцца ў нас за сьпінай. А тое, што было, і тое, што мы забіраем з сабою ў будучыню -- быццам гэтаму дваццатаму стагодзьдзю і не належыць. Верагодна яно належыць вечнасьці, а мінулае стагодзьдзе адбілася на ім адно заложнаю, татальнай перашкодай - нараджацца, разьвівацца і тварыць. Верагодна, так было зь лепшымі беларускімі кнігамі, так было і зь лепшымі беларускімі людзьмі, з нацыяй у цэлым. Ня так шмат нам пакінулі мінулыя войны і закалоты, а найперш - эпідэмія камунізму, якая каго панішчыла, а каго паперакручвала на самыя вычварныя лады.

**Сяргей Дубавец, Вільня**

## Адразу некалькіх кніг пра літаратуру эміграцыі...

Кніга Алеся Пашкевіча "Зваротныя дарогі: Проза беларускай эміграцыі XX ст." выйшла пры канцы мінулага году ў Беластоку ў бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднаньня "Белавежа". Гэта ўжо 38-я кніга сэрыі, заснаванае ў 1990 г. Гэтае выданьне - першае манаграфічнае дасьледаваньне прозы беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя.

"Вывучэньне нашае эмігранцкае прозы сёньня становіцца надзённым і актуальным заданьнем. Калі беларуская паваенная эмігранцкая паэзія хоць крыху вывучаная, дык нашая "замежная" проза "пахваліцца" падобным ня можа. Бальшыня дасьледнікаў літаратуры беларускае эміграцыі выказваліся аб прозе вельмі скептычна, часам неабгрунтавана й несправядліва", - кажа ў прадмове да свае кнігі Алесь Пашкевіч.

У кнізе "Зваротныя дарогі: Проза беларускай эміграцыі XX ст." разглядаецца літаратурна-грамадзкі рух беларускай эміграцыі, гістарычная, мэмуарна-аўтабіяграфічная й сатырычная проза пісьменьнікаў: Паўлюка Азёрнага (Паўлы Урбана), Уладзімера Случанскага, Юркі Віцьбіча, Віктара Вальтара, Францішка Аляхновіча, Уладзімера Сядуры, К. Акулы, Аўгена Калубовіча, Міколы Цэлеша, Масея Сяднёва, Аляксандры Саковіч, Лявона Савёнка й Антона Адамовіча. Асобна вылучаны разьдзел "Ідэя беларускае Крывіі" - пра Вацлава Ластоўскага як пачынальніка жанру гістарычнае й фантастычнае прозы ў нашай літаратуры.

* * *

Лідзія Савік падрыхтавала й выдала ў выдавецтве "Тэхналёгія" кнігу пра літаратуру беларускага замежжа "Пакліканыя". У кнізе амаль паўтысячы старонак. Сп-ня Савік аналізуе здабыткі замежных беларускіх пісьменьнікаў. Чытач, які ня знаецца ў беларускай эміграцыйнай літаратуры, адкрые для сябе новыя прозьвішчы, даведаецца пра жыцьцё й творчасьць Натальі Арсеньневай, Уладзімера Дудзіцкага, Янкі Золака, Хведара Ільляшэвіча, Міхася Кавыля, Уладзімера Клішэвіча, Рыгора Крушыны, Алеся Салаўя ды Масея Сяднёва.

* * *

Працягваем эмігранцкую тэму паведамленьнем з-за акіяну. Ян Запруднік канчае працу над кнігаю пра "Дванаццатку" - беларускую літаратурную суполку, што паўстала адразу па вайне ў Заходняй Эўропе й задзіночвала 12 таленавітых празаікаў і паэтаў. Бальшыня зь іх працавалі на шахтах Брытаніі, зарабляючы на жыцьцё. Неўзабаве "Дванаццатка" ператварылася ў скаўцкую групу. "Жыць для Бацькаўшчыны, змагацца за яе, а калі трэба, дык і памерці", - быў дэвіз сяброў літаратурнага згуртаваньня. Пазьней шмат хто з "Дванаццаткі" стаў супрацоўнікам радыё "Вызваленьне" (пасьля - "Свабода"), Інстытуту вывучэньня СССР. Адзін з дванаццацёх - Янка Філістовіч - быў перакінуты на Беларусь, дзе праз пэўны час быў расстраляны як дывэрсант і шпіён. Нам стала вядома тое-сёе з будучага зьместу рыхтаванае кнігі. У канцы яе, між іншага, будуць зьмешчаныя ўспаміны пра ведамага кампазытара Міколу Равенскага, а таксама дзёньнік укладальніка кнігі - Яна Запрудніка. Сам сп. Запруднік называе кнігу пра "Дванаццатку" дакумэнтальна-мэмуарнаю аповесьцю.

Я.Запруднік: - Кніга гэтая ілюстраваная. Там будзе пра гімназію імя Янкі Купалы ў лягерох для перамешчаных асобаў у Міхэльсдорфе й Рэгенсбургу, пра нашую працу два з палавінаю гады ў вуглекапальнях у Англіі й Шатляндыі ды чатыры гады навукі ва ўнівэрсытэце. Гэта пэрыяд ад 1946 да 1954 г. Маладому чытачу гэтая кніжка можа будзе цікавейшаю, чымся іншым, бо гэта гісторыя хлапцоў у веку ад 19 да 23 гадоў. (R. R.)

## Беларускі фонд культуры плянуе выпусьціць кнігу Якуба Коласа «Новая зямля» на трох мовах

БелаПАН.

У 2002 годзе Беларускі фонд культуры (БФК) плянуе выпусціць юбілейнае выданне кнігі Якуба Коласа «Новая зямля» на трох мовах — беларускай, рускай і польскай.

Прэзентацыю кнігі намечана правесці ў Мінску, Маскве, Варшаве. Таксама плануецца арганізаваць выставу-прэзентацыю малюнкаў народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча да кнігі. Пра гэта паведаміў 17-га студзеня старшыня БФК Уладзімір Гілеп на пасяджэнні Савету фонду.

Сярод іншых задач арганізацыі — удзел у літаратурных чытаннях, музейных мерапрыемствах, святкаваннях, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

*********************************************

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 1, Беласток, 2002, 52 бач.
2. **Кантакты і Дыялогі.** Менск. №11, 2001, 64 бач.
3. **Шляхам Скарыны.** Выданьне баларусаў Масквы. № 1(18), Масква, 2001, 20 бач.
4. **Камунікат.** Бюлетэнь Беларускай Рэдакцыі Радыё Палёнія, 3(17), Варшава, 2001, 48 бач.
5. **Беларусь мая Бацькаўшчына.** Сачыненьні пераможцаў дзіцячага конкурсу /травень 2001/, Менск, 2001, 123 бач.
6. **Беларуская Дыяспара як пасрэдніца ў Дыялогу Цывілізацый.** Матэрыялы III Міжнароднага Кангрэсу Беларусістаў. Менск, кніга 17, 2001, 310 бач.
7. **Гістарычны Шлях Беларускай Нацыі і Дзяржавы.** Менск, "Беларускі кнігазбор", 2001, 207 бач. плюс вельмі шмат фатаграфіяў па-за нумэрацыяй.

+++++++++++++++++++++++++++++++

Выдавецтва газэты "Беларускі Дайджэст" і прыяцелі выказваюць шчырае спачуваньне Ванкарэму Нікіфаровічу з прычыны напаткаўшага яго гора — сьмерці Маці.

**АД ВЫДАВЕЦТВА.**

Чытачы пытаюць... але не заўсёды ёсьць нагода людзям адказаць...

У справе падачы ў газэце бягучых навінаў, яшчэ раз зазначаем, што гэта папросту не патрэбна. Наша выданьне месячнае... а бягучымі навінамі запоўнены ўсюды і ўвесь час эфір і друк у розных мовах. Мы падбіраем дасланыя нам матэрыялы, якія ў нейкай меры могуць быць цікавымі для нашых чытачоў. Гэта беларуская тэматыка з Бацькаўшчыны і замежжа...

Як зьбіраемся адзначыць выхад 100-га нумару нашае газэты? Хацелася-б выдаць яе ў пашыраным аб'ёме, але ці дазволяць на гэта нашыя рэсурсы і сілы, — цяжка сказаць. А можа нашы чытачы маюць нейкія іншыя ідэі адносна гэтага "юбілею"?

Грамада нашых чытачоў складаецца ў 90% з людзей пэнсіянернага веку, — гэта 65 і вышэй гадоў. Яны-ж утрымоўваюць і цэняць нашу газэту... Чэсьць ім і слава! Дзякуем за ўвагу.

## "Мемарыял пралітай крыві"

**Беларускі камітэт міру (БКМ) прапаноўвае ўзвесці ў Курапатах "Мемарыял пралітай крыві".**

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН старшыня БКМ Іван Кірычэнка зазначыў, што пытаньне ўвекавечаньня памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій у Курапатах ператварылася ў шматгадовую дыскусію, выклікае ў людзей шмат пытаньняў і заклапочанасьць у грамадзтве, садзейнічае дэстабілізацыі і нагнятаньню становішча ў краіне.

Зыходзячы з таго, што "закрываць вочы на гэтую праблему было б амаральна", БКМ у канцы мінулага года зьвярнуўся да кіраўніка дзяржавы, прэм'ер-міністра і кіраўнікоў абедзвюх палат парламента з шэрагам прапаноў:

-- прыняць неадкладныя захады па дзяржаўнай ахове ўрочышча Курапаты;

-- зацвердзіць ахоўваемую зону помніка гісторыі і культуры, зону рэгуляваньня забудовы мемарыяла, а таксама зрабіць агароджу зоны помніка;

-- вырашыць пытаньне аб аднясеньні мемарыяла да кампетэнцыі Мінгарвыканкама;

-- абвясьціць рэспубліканскі конкурс на праект "Мемарыяла пралітай крыві" і ўзвесьці яго ва ўрочышчы ў 2002--2003 гадах.

"Такім чынам, будзе закрыта тэма супрацьстаяньня, штучна створаная на глебе памяці. Мемарыялізацыя Курапатаў, на нашу думку, будзе садзейнічаць гістарычнай справядлівасьці І кансалідацыі грамадства", -- падкрэсьліў Кірычэнка.

Разам з тым, паводле яго слоў, кіраўніцтва БКМ дагэтуль не атрымала ніякага адказу на свае прапановы.

**Марат ГАРАВЫ.** (Народная В.)

## Конкурс на новы беларускі гімн...

Умовы конкурсу на словы і музыку новага беларускага гімну разгледжаны 15 студзеня на першым паседжаньні працоўнай камісіі пад кіраўніцтвам віцэ-прэм'ера У. Дражына.

Да 1-га красавіка грамадзкія арганізацыі, творчыя саюзы і звычайныя грамадзяне могуць дасылаць у камісію свае варыянты. Пяць найлепшых запішуць у выкананьні духавога аркестру, з іх журы выбера тры творы, а ўжо з гэтых трох вызначыць пераможцу. Новы беларускі гімн павінен упершыню прагучаць у Дзень Незалежнасьці 3 ліпеня. Найбліжэйшым часам Савет міністраў зацвердзіць палажэньне аб конкурсе.

У інтэрв'ю Беларускаму тэлебачаньню міністр культуры Леанід Гуляка не выключыў, што музыка гімну застанецца ранейшай, а словы будуць новыя. Так быў прыняты цяперашні расійскі гімн: на мелодыю гімну СССР наклалі больш «сучасны» тэкст.

'Беларускія' халуі трымаюцца ўсяго расейскага, як п'яны калгаснік гнілога плоту...

## У Расіі мільён дзяцей-беспрытульнікаў

Le Temps, Швейцарыя

Іх у Расіі мільён. Вулічныя дзеці спяць на вакзалах, а ўдзень бавяць час, жабруючы, прадаючы наркотыкі на вуліцах і ў метро, чынячы дробныя крадзяжы.

У сапраўднасці 90% з іх яшчэ маюць бацькоў, да якіх маглі б вярнуцца. Але гэтыя дзеці жывуць на вуліцы якраз дзеля таго, каб уцячы ад сям'і, якую разбівае алкагалізм і гвалт – ці аднаго з бацькоў, ці абодвух. Выручаныя грошы дзеці трацяць на дыскі, на «нюхальны» клей або на ежу, што ідзе верхаводу іхняе групы – як правіла, падлетку, які бароніць іх ад другіх кланаў, але бярэ з кожнага падатак за права спаць на пэўным вакзале. У Маскве іх – 50 000, большыня прыбыла з правінцыі, каб жыць у сталіцы «падаросламу». Хлопчыкаў сярод іх цяпер 70%, але дзяўчат становіцца ўсё больш. Яны туляцца на лавах метро – 10-11-гадовыя клашары, нямытыя, здзічэлыя ад холаду, нястачы сну.

Кожны дзень міліцыя ловіць у метро да сотні дзяцей. Іх затрымліваюць на некалькі гадзін і потым адпускаюць, даўшы адзіную параду: «каб я цябе больш не бачыў». Між тым закон забараняе міліцыі забіраць дзяцей, калі тыя не ўчынілі злачынства. Здароўе большыні дзяцей падарвана, яны церпяць на хранічныя і заразныя хваробы – хваробы скуры і нават венерычныя, кішэчныя інфекцыі і г.д. Поруч з падзеннем нараджальнасці вось яшчэ адна вострая сацыяльная праблема, якую цяжка вырашыць у Расіі, што афіцыйна знаходзіцца на ўздыме.

## Еўрапейскі склад зброі для тэрарызму

М. ЛЕНЦЫ, *The Washington Post*

Краіна, якая патрабуе найбольшай у Еўропе ўвагі з прычыны падтрымкі ёю тэрарыстычных груповак і краінаў-ізгояў, застаецца па-за ўвагай. Гэтая недэмакратычная краіна, дзе няма закону, – Беларусь, якой кіруе Аляксандр Лукашэнка.

Няма сумневу – ніводнаму кіраўніку дзяржавы ў свеце вераснёўскія тэрарыстычныя акты не прынеслі столькі карысці, як Лукашэнку, апошняму дыктатару Еўропы, чыё галоўнае жаданне – зноў аб'яднаць Савецкі Саюз. Як толькі ў свеце пачалі ўзнімацца пратэсты і асуджэнне Лукашэнкі за фальсіфікацыю вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 9 верасня, трагічныя падзеі, што адбыліся двума днямі пазней, адцягнулі ўвагу Вашынгтону ад гэтай малавядомай і адсталай краіны.

Вашынгтону трэба асэнсаваць, што Беларусь спакойна выступае за спінаю *NATO* адным з вядучых пастаўшчыкоў смяротнага вайсковага рыштунку ісламскім радыкалам. Атрымальнікі зброі – тэрарысты і экстрэмісцкія групоўкі на Блізкім Усходзе, Балканах і ў Цэнтральнай Азіі.

У 1994 годзе, калі Лукашэнка толькі стаў прэзідэнтам, Беларусь прадала аўтаматы, а таксама танкі і БМП у Таджыкістан. Гэтая вайсковая тэхніка хутка трапіла ў рукі бакоў, што змагаліся ў суседнім Афганістане, а таксама да ісламістаў, якія прагнулі скінуць урад у Таджыкістане. Па іроніі лёсу, якраз у гэтай краіне «старшы брат» Беларусі – Расія – трымае тысячы жаўнераў, каб абараніць Цэнтральную Азію і сваю ўласную тэрыторыю ад ісламскай экспансіі.

Шмат якія лукашэнкаўскія збройныя здзелкі ішлі такім самым шляхам: зброя, прададзеная Беларуссю, «збіваецца» з кірунку, і замест пазначанай краіны-атрымальніка трапляе да праісламскіх экстрэмісцкіх груповак або ў дзяржаву, на пастаўкі зброі ў якую накладзена эмбарга ААН; тым часам афіцыйныя асобы з беларускага ўраду робяць выгляд, што не заўважаюць гэтых трансакцыяў.

Вядома, гэта вельмі прыкра, што на беларускай зброі ляжыць адказнасць за працяг грамадзянскіх войнаў і ўнутранай барацьбы ў такіх краінах, як Таджыкістан, Ангола і Алжыр. Аднак значна болей непакоіць тое, што Судан ?- краіна, дзе доўга жыў Асама бін Ладэн і якая лічыцца прытулкам для тэрарыстаў, – атрымаў ад Беларусі такую выпрабаваную і якасную тэхніку, як танкі Т-55 і баявыя верталёты Мі-24. Зброя, што адпраўляецца з Беларусі ў Судан, або трапляе ў рукі тэрарыстаў, або выкарыстоўваецца ў грамадзянскай вайне, цягам якой ужо загінула больш за 2 мільёны чалавек.

Спробы Лукашэнкі гандляваць зброяй, каб зарабіць такія патрэбныя для ягонай «абложанай» эканомікі грошы, як выглядае, не маюць межаў. Для краіны, дзе жыве ўсяго 10 мільёнаў чалавек, вельмі прыкра, што яна з году ў год уваходзіць у дзесятку краінаў – найбуйнейшых экспарцёраў зброі. Каб ацаніць, колькі ўсяго вайсковай тэхнікі, якая засталася Беларусі ў спадчыну ад Савецкага Саюзу, мае ў сваім распараджэнні Лукашэнка, разгледзім наступны факт. Беларуская армія мае 1 700 баявых танкаў Т-72. Польшча, новы член *NATO*, краіна з наймацнейшай арміяй у Цэнтральнай Еўропе і з насельніцтвам у чатыры разы большым за беларускае, мае іх толькі 900.

Нягледзячы на шматлікія Лукашэнкавы абвержанні, Беларусь цягам пэўнага часу зьяўляецца ключавым партнёрам Садама Хусейна, які намагаецца перабудаваць і мадэрнізаваць іракскія супрацьпаветраныя сілы. Беларусь парушыла міжнароднае заканадаўства, сакрэтным чынам паставіўшы Багдаду запчасткі да зенітных установак *SA*-3, а таксама паслаўшы ў Ірак тэхнічных спецыялістаў. Улічваючы, што Ірак неаднаразова спрабаваў збіць амерыканскія і брытанскія самалёты, што патрулююць зону, у якой, паводле рашэння ААН, усе палёты забароненыя, – толькі ў мінулым годзе было зафіксавана больш за 420 такіх спробаў, – патаемнае беларуска-іракскае вайсковае супрацоўніцтва падаецца небяспечным, і ў заходніх сталіцах мусяць ужо прагучаць трывожныя званочкі.

Былы беларускі міністр абароны Павел Казлоўскі нядаўна падсумаваў вынікі супрацоўніцтва Беларусі з Іракам і іншымі краінамі-ізгоямі, сказаўшы: «Я ведаю, што беларускі ўрад не мае маральных прынцыпаў і можа прадаваць зброю гэтым краінам [такім, як Ірак], нават калі існуе эмбарга. Гэта крымінальная палітыка беларускага кіраўніцтва».

Энергічны і аўтарытарны, Лукашэнка адчувае, што ў яго развязаныя рукі для продажу зброі краінам і групоўкам, якія непрыязна ставяцца да краінаў Захаду, бо Еўрапейскі Саюз і Злучаныя Штаты аніяк не прызнаюць яго за легітымнага кіраўніка дзяржавы. Пагрозы эканамічных санкцыяў, агучаныя ЗША, або іншыя дыпламатычныя «штучкі» малаэфектыўныя, бо краіна апынулася ўжо ў такой ізаляцыі, што канкураваць з ёй у гэтым мала хто можа.

Беларуская эканоміка застаецца на плыву толькі дзякуючы танным энерганосьбітам, якімі яе субсідуе Расія. Расія – адзіная краіна, якая мае рычагі эканамічнага і палітычнага ўплыву на Беларусь, і Вашынгтон мусіць выкарыстаць свае новыя стасункі з Масквой і падахвоціць расіянаў да ціску на Беларусь, каб прымусіць яе спыніць патаемныя продажы зброі краінам-ізгоям і тэрарыстычным групоўкам.

Агульна ведама, што 2/3 гэтае зброі, гэта расейская зброя, бо Расея хітра выкарыстоўвае сатэлітны рэжым Лукашэнкі для сваіх нячыстых справаў і гандлёвых зьдзелак...

## КВАСЬНЕЎСКІ РАЗМАЎЛЯЎ З ПУЦІНЫМ ПРА БЕЛАРУСЬ

**Стала вядома, што зварот жонак зніклых апазіцыйных палітыкаў быў усё-такі перададзены Уладзіміру Пуціну.**

У час перамоў у Варшаве прэзідэнты Пуцін і Квасьнеўскі, апрача іншага, абмяркоўвалі і сітуацыю ў Беларусі.

Аб гэтым Аляксандр Квасьнеўскі ўпершыню заявіў у інтэрв'ю польскаму радыё Zet. З гэтага інтэрв'ю вынікае, што сітуацыю ў Беларусі прэзідэнты Пуцін і Квасьнеўскі абмяркавалі ўжо ў першыя гадзіны перамоў.

Аднак суправаджаючыя Аляксандра Квасьнеўскага падчас перамоў адмаўляліся пацвердзіць сам факт размовы прэзідэнтаў пра ліст ад жонак зніклых беларускіх палітыкаў.

Падчас інтэрв'ю карэспандэнт радыё Zet запытала ў Аляксандра Квасьнеўскага, якое стаўленне да беларускай апазіцыі ў расійскага прэзідэнта?

-- Ёсць вялікае хваляванне. Напэўна, Беларусь застаецца істотным партнёрам, аднак я ўсведамляю, што Аляксандр Лукашэнка -- партнёр надзвычай не лёгкі, -- адказаў ён.

На пытанне, ці лічыць усё ж Пуцін Лукашэнку дыктатарам, Аляксандр Квасьнеўскі наўпрост адказаў наступнае:

-- Не, такія словы не ўжываюцца ў палітычнай размове. Затое, напэўна, я лічу Лукашэнку калегам, з якім не лёгка супрацоўнічаць. Але ліст жонак беларускіх апазіцыянераў, якія зніклі, якія загінулі, быў перададзены і спадзяюся, што, скарыстоўваючы свае магчымасці, прэзідэнт Пуцін высветліць гэтае пытанне. Такім чынам, з адказаў прэзідэнта Квасьнеўскага можна меркаваць, што ніякага канкрэтнага сумеснага рашэння ў справе звароту жонак зніклых палітыкаў кіраўнікі Расіі і Польшчы не прымалі. Аднак, напэўна, станоўчае тое, што гэтая справа была абмеркавана на такім высокім узроўні, як яшчэ напярэдадні абяцалі зрабіць прадстаўнікі адміністрацыі прэзідэнта Польшчы.

Аляксей ДЗІКАВІЦКІ. Варшава.

## ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З УЛАДЫКАМ ФІЛАРЭТАМ?

Мітрапаліт Філарэт, галава беларускага экзархату РПЦ, надрукаваў сваё пасланне праваслаўным вернікам на Раство толькі па-беларуску.

Уладыка прасіў надрукаваць пасланьне па-беларуску й расейскамоўныя дзяржаўныя газэты. Пакуль незразумела, што здарылася з уладыкам Філарэтам. Магчыма, што перад пагрозай пашырэньня ўплыву Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы на Беларусі, ён нарэшце рашыўся на беларусізацыю, пакуль толькі сваіх пасланьняў.

**КУРС ДОЛАРА**




